

АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

1 лістапада 2000 года
Цана 90 рублёў

№ 44 (2706)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

БЮДЖЭТ

## ГРОШАЙ ХОПІЦЬ. І НА ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ ТАКСАМА

Бюджэт, як кажуць, аснова ўсіх асноў любой дзяржавы. Днямі намеснік міністра фінансаў Беларусі Анатоль СВЕРЖ расказаў журналістам пра асаблівасці параметраў бюджэту на будучы год.

Прыняты Палатай прадстаўнікоў у другім чытанні 12 кастрычніка бюджэт-2001 складае 5,7 трыльёна рублёў. У параўнанні з сёлетнім, лічба павялічылася больш чым у два разы.

Бюджэт на 2001 год, як і папярэднія, будзе мець сацыяльную накіраванасць, асноўная задача — умацаванне рэальнага сектара эканомікі. Напрыклад, на падтрымку аграрна-прамысловага комплексу выдаткоўваецца 577 мільярдаў рублёў, што складае амаль 10 працэнтаў ад агульнай сумы бюджэту. Яшчэ 386 мільярдаў — з мэтавага фонду падтрымкі сельгасвытворцаў. Крытэрыем выплат стане выкананне дзяржзаказу.

Бюджэтнае асігнаванне на жыллёвае будаўніцтва вырасце ў 1,7 раза і складзе 131 мільярд.

Як жа будзе папаўняцца бюджэт? Намеснік міністра фінансаў Іван ШУНЬКО паведаміў, што падатковая нагрузка ў наступным годзе панізіцца на 0,6 працэнта і будзе складаць 34,5. Аднак чамусьці вернецца ранейшая стаўка налогу на прыбытак — 30 працэнтаў (сёлета яна складае 25). Прадугледжана аб'яднанне некаторых плацяжоў у адзін. Вернута раўнамернае налічэнне падаходнага налогу. Ён па-ранейшаму складае 30 працэнтаў (у Расіі 13). Узрасла з 25 да 30 працэнтаў стаўка

Заканчэнне на 2-й стар.

ПАДАРОЖЖА ПА МІНСКУ: НАБЯРЭЖНАЯ СВІСЛАЧЫ



Фота Валерыя ХАРЧАНКІ.

ТОЛЬКІ ФАКТ

**РАЗВІТАННЕ З "ЗАЙЧЫКАМ".** З 1 студзеня 2001 года ў абарачэнні ў насельніцтва Беларусі застануцца толькі беларускія рублі ўзору 2000 года. Недэнамінаваныя разліковыя білеты, хто пажадае, зможа абмяняць ва ўсіх банках краіны ў суадносінах 1 000 да 1 без абмежавання сум і суб'ектаў абмену.

Да такіх недэнамінаваных грошай адносяцца банкноты ўзору 1992—1999 гадоў, вартасцю 1 000, 5 000, 20 000, 50 000, 100 000, 500 000, 1 000 000 і 5 000 000 рублёў. Тыя, хто па якіх-небудзь прычынах у наступным годзе не паспее абмяняць грошы, зможа зрабіць гэта толькі ва ўстановах Нацбанка да 31 снежня 2003 года.

**ІНТЭРНЭТ-НАВІНЫ.** Колькасць пастаянных карыстальнікаў Інтэрнэта ў Беларусі ўзрасла ў чатыры разы ў параўнанні з мінулым годам і складае больш за 30 тысяч абанентаў. Улічваючы штогадовае падваенне патрэб карыстальнікаў паслугамі Інтэрнэта, "Белтэлекам" мяркуе ў 2001 годзе павялічыць прапускную здольнасць каналаў.

ПРАЕКТЫ

## ЗНАЁМСТВА З БЕЛАРУССЮ

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей распрацаваў праграму азнаямлення студэнтаў-беларусаў з-за мяжы, якія вучацца ў беларускіх навучальных установах, з гісторыяй і культурай Беларусі.

Згодна з гэтай праграмай адбылася сустрэча студэнтаў-першакурснікаў з Польшчы, якія навучаюцца ў Мінскім медыцынскім інстытуце, з супрацоўнікамі Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. Дырэктар цэнтра Любоў Уладыкоўская-Канаплянік расказала студэнтам пра гісторыю стварэння Скарынаўскага цэнтра і пра яго працу. Адбылася цікавая гутарка з прафесарам Адамам Мальдзісам, які пазнаёміў гасцей з музеем "Беларусы ў свеце". Студэнтам з Польшчы было цікава паслухаць успаміны вядомага вучонага-

Заканчэнне на 2-й стар.

ГАЗ

Завершана будаўніцтва магістральнага газапровода Кобрын—Драгічын. Для гэтага спатрэбілася крыху больш за адзін год. Сёння стала магчымай газіфікацыя практычна ўсіх населеных пунктаў Драгічынскага раёна. Ужо на працягу кастрычніка-лістапада да прыроднага газу будзе падключана каля дзвюх тысяч кватэр у райцэнтры, кацельныя жылкамунгаспадаркі і прамысловых прадпрыемстваў горада.

НА ЗДЫМКУ: старшыня Брэсцкага аблвыканкама Васіль ДАЎГАЛЁЎ запальвае сімвалічны агонь.



БелТА.

СПОРТ

♦ **МОТАБОЛ.** Дзевяціразовы чэмпіён рэспублікі па мотаболу пінскі "Аўтамабіліст" зноў прадэманстраваў высокі клас. Ён стаў пераможцам міжнароднага турніру, які завяршыўся на мясцовым стадыёне БелАСТТ.

Вынік чэмпіёна проста бліскучы: ніводнага паражэння пры суадносінах забітых і прапушчаных мячоў 34 : 3!

Асаблівa пераканаўчай была перамога над мінулагоднім чэмпіёнам Расіі камандай "Каўровец" з Уладзімірскай вобласці 10 : 1.

♦ **ІНВАСПОРТ.** У аўстралійскім Сіднэі ў XI летніх Паралімпійскіх гульнях прынялі ўдзел 26 беларускіх спартсменаў-інвалідаў. Амаль усе яны маюць вялікі вопыт удзелу ў міжнародных турнірах і гатовы да барацьбы за самыя высокія месцы. Беларусы прынялі ўдзел у спаборніцтвах па лёгкай атлетыцы, плаванню, веласпорту і паўэрліфтынгу. Чатыры гады назад у Атланце нашы спартсмены-інваліды заваявалі 13 медалёў, тры з якіх — залатыя. І зараз каманда паказала высокія вынікі.

♦ **ФУТБОЛ.** *МАЗЫРСКАЯ "СЛАВІЯ" СТАЛА "ЗАЛАТОЙ".* За тры туры да афіцыйнага закрыцця футбольнага чэмпіянату ў вышэйшай лізе пытанне аб залатых медалях ужо вырашана: іх уладальнікамі сталі футбалісты мазырскай "Славіі", якія разграмілі "Ліду" — 5:0.

За золата змагаліся і дынамаўцы Мінска, якім патрэбна было перамагчы "БАТЭ" на яго полі. Барысаўчанам не хацелася саступаць, і яны перамаглі з лікам 3:1, скарацíўшы адставанне ад "Дынама" да трох ачкоў. Такім чынам, каманда прэтэндуе на другое месца ў агульным заліку.

*ТУРНІРНАЕ СТАНОВІШЧА ПАСЛЯ 27 ТУРАЎ*

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| "Славія" | 27 | 21 | 5 | 1 | 72-24 | 68 |
| "Дынама" Мн. | 27 | 18 | 4 | 5 | 46-18 | 58 |
| "БАТЭ" | 27 | 17 | 4 | 6 | 62-26 | 55 |
| "Нёман-Белкард" | 27 | 15 | 5 | 7 | 49-24 | 50 |
| "Шахцёр" | 27 | 14 | 8 | 5 | 40-22 | 50 |
| "Днепр-Трансмаш" | 27 | 14 | 4 | 9 | 52-30 | 46 |
| "Тарпеда-МАЗ" | 27 | 12 | 10 | 5 | 41-25 | 46 |
| "Гомель" | 27 | 14 | 2 | 11 | 45-39 | 44 |
| "Белшына" | 27 | 9 | 4 | 14 | 34-35 | 31 |
| "Дынама" Бр. | 29 | 9 | 4 | 14 | 30-45 | 31 |
| "Ведрыч-97" | 27 | 6 | 10 | 11 | 22-32 | 28 |
| "Лакаматыў-96" | 27 | 7 | 6 | 14 | 27-43 | 27 |
| "Нафтан-Дэвон" | 27 | 4 | 7 | 16 | 22-62 | 19 |
| "Ліда" | 27 | 3 | 9 | 15 | 15-55 | 18 |
| "Камунальнік" | 27 | 3 | 8 | 16 | 17-58 | 17 |
| "Тарпеда-Кадзіна" | 27 | 4 | 2 | 21 | 25-61 | 14 |



## ВІНШУЕМ!



**“ЖАМЧУЖЫНАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ТЭАТРА” НАЗВАЛІ НА БЕНЕФІСЕ НАРОДНАЙ АРТЫСТКІ БЕЛАРУСІ НІНЫ КАРНЕЕВАЙ ВІНОЎНІЦУ ЎРАЧЫСТАСЦІ.** Ролю ў спектаклі “Сямейны партрэт з пабочнай асобай” Ніна Аляксееўна адзначыла не толькі пачатак тэатральнага сезона, але і свой юбілей — 80 гадоў!

Да гэтага часу актрыса занята ў спектаклях не толькі Гомельскага абласнога тэатра, але і ў Маладзёжным. А самае цікавае: яе можна сустрэць у інстытутах, на прадпрыемствах, у школах, дзе яна па асабістай ініцыятыве чытае, расказвае пра тэатр і пра сябе. Расказаць, безумоўна, ёсць пра што, таму і з’явілася на свет кніга Ніны Карнеевай “Тэатр у маім жыцці”.

НА ЗДЫМКУ: народная артыстка Беларусі Ніна КАРНЕЕВА.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## ДЫПКУР’ЕР

**У МІНСК ПРЫБЫЎ НОВЫ КІРАЎНІК АМЕРЫКАНСКАЙ ДЫПЛАМАТЫЧНАЙ МІСІІ.** “ЗША перакананы, што дэмакратычная, квітнеючая, сапраўды незалежная Беларусь будзе ключом да ўстойлівай стабільнасці ва ўсім рэгіёне. І для дасягнення гэтай мэты мы маем намер супрацоўнічаць з усімі прадстаўнікамі палітычных сіл беларускага грамадства, а таксама з нашымі саюзнікамі ў Еўропе, што ў сваю чаргу паслужыць развіццю і ўстанаўленню цесных сувязей паміж Беларуссю і сумежнымі краінамі”. Пра гэта заявіў 20 кастрычніка ў нацыянальным аэрапорце Мінск-2 прадстаўнікам сродкаў масавай інфармацыі новы кіраўнік амерыканскай дыпламатычнай місіі Майкл Козак. Ён назначаны замест Дэніэла Спекхарда, які пакінуў нашу краіну 5 жніўня ў сувязі з заканчэннем тэрміну паўнамоцтваў.

Наступны год, на думку Майкла Козака, будзе мець рашаючае значэнне для таго, каб спыніць існуючую вакол краіны ізаляцыю. “Я рады, што мне аказаны давер прадстаўляць ЗША ў Беларусі менавіта ў гэты гістарычны момант”, — падкрэсліў ён.

Чакаецца, што новы кіраўнік амерыканскай дыпламатычнай місіі зойме рэзідэнцыю свайго папярэдніка. А ў бліжэйшы месяц ён мае намер зрабіць шэраг паездак па рэгіёнах краіны.

**БелТА.**

## НАПЯРЭДАДНІ

**МАЗ-НАВІЧОК.** Мінскі аўтамабільны завод у 2001 годзе зробіць доследны ўзор самазвала грузападымальнасцю 4,5 тоны, паведамілі на прадпрыемстве. Плануецца выпускаць самазвалы з дзвюх- і трохбаковай разгрузкай. Серыйную вытворчасць самазвалаў завод плануе арганізаваць у 2002 годзе. Асноўнымі пакупнікамі гэтых машын, як лічаць на прадпрыемстве, стануць рамонтна-будаўнічыя арганізацыі. Зараз на тэрыторыі краін былога СССР такія самазвалы не выпускаюцца.

## ДАСЛЕДУЕМ ПРАБЛЕМУ: ХТО ДАПАМАГАЕ БЕЖАНЦАМ?

# «ЯК СЯБЕ ПАВЯДЗЕШ, ТАК І ДА ЦЯБЕ БУДУЦЬ СТАВІЦЦА», –

### ЛІЧЫЦЬ Элгуджа МАНІЯ, ГРУЗІН З АБХАЗІІ, ЯКІ ЖЫВЕ Ў ГРОДНЕ

Сустрэцца з гэтым чалавекам мне давялося ў Мінску, куды ён прыехаў для ўдзелу ў семінары для недзяржаўных арганізацый па праблемах абароны правоў бежанцаў, які арганізоўвала УВКБ ААН. Лічу, мне вельмі пашанцавала, што пазнаёмілася з Элгуджа Манія, бо атрымала зарад энергіі, з’явілася жаданне тварыць дабро вакол сябе і прыносіць іншым, як і Элгуджа Гаджаевіч, яшчэ больш карысці.

Нарадзіўся Элгуджа Манія ў Абхазіі ў вёсцы Качара Ачамчырскага раёна, у сялянскай сям’і. Бацька яго, дарэчы, быў удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны, пешшу прайшоў усю Беларусь, застаўся інвалідам. Потым Элгуджа жыў у пасёлку Гульрыпшы Гульрыпшскага раёна, што недалёка ад Сухумі, ажаніўся з Ліянай Гургулія. Нарадзіліся дзеці: дзве дачкі Ніно і Марыам і сын Георгій.

Так здарылася, што родны брат Элгуджы Гаджаевіча напрыканцы 80-х гадоў ажаніўся з беларускай са Шчучына і застаўся жыць на Беларусі ў горадзе Гродне. Яны размаўлялі па тэлефоне, і брат Руслан часта клікаў у госці. У сваю чаргу, Элгуджа схіляў брата вярнуцца з сям’ёй на радзіму. Здаецца, усё было вырашана: жонка Руслана згадзілася ехаць за любым (куды муж, туды і я). Але... у жніўні 1992 года пачалася вайна ў Абхазіі (вядомы грузіна-абхазскі канфлікт), і пераезд прыйшлося адкласці. Цяпер ужо брат клікаў да сябе, прасіў, каб хаця сям’ю прывёз на Беларусь. І ў верасні 1992 года Элгуджа Гаджаевіч перавёз у Гродна сваю маці, жонку і дзяцей, а сам паехаў назад.

*“Група Басаева,* — расказваў спадар Манія, — *спаліла вёску, дзе я нарадзіўся, у асадзе апынуўся Сухумі, не спыняліся бамбёжкі... Таму ў 1993 годзе і я пераехаў на Беларусь, тым больш, што трэба было карміць сям’ю. Прыйшлося кінуць добрую пасаду намесніка дырэктара аб’яднання грамадскага харчавання, толькі што створаную фірму, якую назваў у гонар сваёй малодшай дачкі “Марыам”.*

Інжынер-тэхнолаг па адукацыі, на Беларусі Э. Манія не цураўся ніякай працы. А з 1997 года — начальнік лавашскага (па вырабу нацыянальнага грузінскага хлеба лаваш) цэха універсальнай базы абласнога Саюза спажыўцоў. Зараз марыць адкрыць такі цэх і ў Мінску.

У свой час падаваў заяву ва УВКБ ААН, спадзеючыся атрымаць статус бежанца, але да гэтага часу юрыдычна поўнага статуса бежанца ён не мае, атрымаў толькі часовую абарону. З УВКБ ААН падтрымлівае цесныя сувязі.

Ніно, Георгій і Марыам, а ім зараз 14, 13 і 9 гадоў, наведваюць *школу. “Неяк, назіраючы за дзецьмі, заўважыў, — кажа спадар Манія, — што, калі я пытаюся ў іх нешта па-грузінску, яны адказваюць па-руску, і я, каб яны не забывалі роднай мовы, папрасіў іх вучыць пакрыху грузінскай мове свайго дваюраднага брата, які нарадзіўся ў Гродне і грузінскай мовы наогул не ведае. А пасля ўзнікла ідэя стварэння грузінскага класа. Аказалася, што ў Гродне пражывае 8 сямей з Абхазіі. Звярнуўся ва УВКБ ААН, і яны дапамаглі адкрыць такі клас пры сярэдняй школе № 9”.*

Настаўніцы ў гэтым класе Луіза Кеубая і Лейла Гулуа, таксама з бежанцаў, выкладаюць дзеткам грузінскую мову, літаратуру, гісторыю і геаграфію. З радзімы даслалі падручнікі. Заняткі праводзяцца тры разы на тыдзень. У класе 18 чалавек. Цікава, што сярод іх ёсць беларуска, якая ўжо скончыла ВНУ, жонка дваюраднага пляменніка Элгуджы Гаджаевіча.

Па словах Элгуджы, прадстаўнікі ААН дапамаглі і ў аб’яднанні бежанцаў з Абхазіі ў Беларусі. Вынік — стварылася Гродзенскае грамадскае аб’яднанне.

Калі я пацікавілася ў Элгуджы Гаджаевіча, як выглядалі на агульным фоне фестывалю нацыянальных культур, што праходзіў у Гродне, яго землякі, то пачула:

*— Яшчэ ў 1996 годзе, калі я наогул не ведаў, што такія фестывалі праводзяцца, неяк, праязджаючы па Савецкай плошчы, убачыў святочна апрануты натоўп людзей. Гучала музыка, танцавалі прадстаўнікі Арменіі, Азербайджана, Украіны, Літвы і іншых народаў. А грузін — не было. Стала крыўдна за сваіх суплеменнікаў. Што ж, мы горшыя за ўсіх? І ўжо ў 1998, 2000 гадах арганізаваў удзел у свяце грузін з ліку тых, што знаходзяцца на Беларусі.*

На пытанне, як адчувае сябе на Беларусі, Манія адказаў:

*— Добра. Шмат сяброў сярод беларусаў, дапамагаем адзін аднаму. Жонка навучылася гатаваць некаторыя беларускія стравы. Асабліва мне падабаецца смажаная бульба з салам, беларускія каўбаскі.*

*А, наогул, лічу: як сябе павядзеш, так і да цябе будуць ставіцца. Ведаеце, вайна мяняе жыццёвыя каштоўнасці, самога чалавека. І зараз я прытрымліваюся прынцыпу: жыві, пакуль жывецца, сей дабро і не марнуй дарэмна часу. Галоўнае багацце для мяне — дзеці. Але сэрца баліць па роднай зямлі, бо як чалавек, як асоба я сфарміраваўся ў Абхазіі, у вас крыху іншы менталітэт, таму спадзяюся вярнуцца.*

Дарэчы, Элгуджа Гаджаевіч заўважыў, што на сённяшні дзень магчымасць вяртання ёсць. Дзве сям’і ўжо пераехалі на радзіму, але, на жаль, не ў тыя мясціны, дзе жылі раней. І спадар Манія ўпэўнены, што калі б была магчымасць вярнуцца ў свой дом, ужо прыехала б больш сем’яў, і яго ў тым ліку (дарэчы, зараз у кватэры Элгуджы Гаджаевіча на радзіме жывуць іншыя людзі).

А пакуль што жыццё працягваецца, і невядома пакуль, як яно павернецца для сям’і Манія.

Элгуджа Манія аказаўся вельмі шчырым, добразычлівым і гасцінным чалавекам, запрашаў да сябе ў госці, пакуль што ў Гродна. “*Я вас сваім вінам, хачапуры, сацыві пачастую*”, — казаў ён.

Гутарыла **Святлана КАРПУЧОК.**

## ПРАЕКТЫ

# ЗНАЁМСТВА З БЕЛАРУССЮ

Пачатак на 1-й стар.



*Любоў УЛАДЫКОЎСКАЯ-КАНАПЛЯНІК гутарыць са студэнтамі-беларусамі.*

беларусіста аб сустрэчах на польскай зямлі са знакамітымі пісьменнікамі, мастакамі, грамадскімі дзеячамі.

Напярэдадне студэнтаў-беларусаў з Польшчы, Літвы і іншых краін чакаюць цікавыя падарожжы ў старажытныя Нясвіж і Мір, знаёмства з мясцінамі Максіма Багдановіча, а таксама з беларускімі звычаямі, традыцыямі і абрадамі. Прымуць яны ўдзел і ў Калядная вечарыне.

**Тэкст і фота Яўгена КАЗЮЛІ.**



*Адам МАЛЬДЗІС знаёміць гасцей з экспазіцыяй музея “Беларусы ў свеце”.*

## БЮДЖЭТ

# ГРОШАЙ ХОПІЦЬ. І НА ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ ТАКСАМА

Пачатак на 1-й стар.

падатку з прыбытку, што не можа спадабацца прадпрыемствам.

240 мільярдаў рублёў пойдзе на ліквідацыю наступстваў чарнобыльскай катастрофы. У асноўным — на льготы і кампенсацыі насельніцтву, якое жыве на забруджаных радыяцыяй тэрыторыях, у тым ліку і на аздараўленне. Больш увагі ў “чарнобыльскім бюджэце” будзе надавацца ў наступным годзе навуцы, якая спецыялізуецца на радыяцыйнай тэматыцы. Уклад у яе павялічыцца ў 2,6 раза... У цэлым жа асігнаванні на аздараўленне ўзрастуць на 0,5 працэнта.

Дарэчы, як заўважыў спадар Сверж, грошай на прэзідэнцкія выбары хопіць: на іх правядзенне “знайшлі” 12 мільярдаў рублёў, тады як на сёлетнія парламенцкія выбары выдаткавана больш за чатыры. Выбары выбарам — розніца.

**Алесь МЯСНІКОЎ.**

## АБ’ЯВЫ





# ЁСЦЬ ПЫТАННІ?

## ЗВЯРТАЙЦЕСЯ:

*Міграцыйныя службы на Беларусі (Камітэт па міграцыі) знаходзяцца ў Міністэрстве працы і пры адпаведных камітэтах аблвыканкамаў. Мы даём адрасы, дзе павінны разглядацца заявы іншаземцаў аб прызнанні іх бежанцамі.*

✦ **Камітэт па міграцыі пры Міністэрстве працы Рэспублікі Беларусь:**
*220004, г. Мінск, пр. Машэрава, 23/2.*

✦ **Камітэт па працы Мінскага гарвыканкама:**
*220050, г. Мінск, вул. Калектарная, 11.*

✦ **Камітэт па працы Мінскага аблвыканкама:**
*220034, г. Мінск, вул. Захарава, 31.*

✦ **Камітэт па працы Віцебскага аблвыканкама:**
*210010, Віцебск, вул. Гогаля, 6.*

✦ **Камітэт па працы Гродзенскага аблвыканкама:**
*230023, г. Гродна, вул. Ажэшка, 3.*

✦ **Камітэт па працы Магілёўскага аблвыканкама:**
*212030, г. Магілёў, Дом Саветаў.*

✦ **Камітэт па працы Брэсцкага аблвыканкама:**
*224006, г. Брэст, вул. Леніна, 11.*

✦ **Камітэт па працы Гомельскага аблвыканкама:**
*246050, г. Гомель, вул. Савецкая, 28.*

**ПАКАЛЕННЕ-2000**



# ПЕРШАЕ СВЯТА

Сёлета ў яслях-садзіку № 314 Мінска набрана беларускамоўная група дзетак. Ініцыятары гэтага праекта Крысціна Пучынская, Марына Вайцэховіч, Ігар Хляба, а разам з імі бацькоўскі актыў падрыхтавалі метадычны і дапаможны матэрыял, прыклалі ўсе намаганні, каб дзеткам было ўтульна, цікава і цёпла ў садзіку. Некаторыя дзеці прыйшлі з рускамоўных сем'яў, але, гледзячы, як яны паводзяць сябе, нельга сказаць, што пачуваюць сябе тут кепска ці няёмка.

Нядаўна ў групе адбылося свята. Былі на ім танцы, і спевы, і гульні, што ўжо паспелі вывучыць дзеткі за першы месяц. Безумоўна, не абышлося без салодкага стала — сюрпрыза ад знакамітай "Тэравіты".

Дарэчы, група падабралася рознаўзроставая, але гэта ідзе толькі на карысць. Малыя, якім споўнілася два гады, могуць вучыцца ў старэйшых мове, правілам паводзін, а старэйшыя — ставіцца да малодшых з дабрынёю і сардэчнасцю, дапамагаць, калі ў іх нешта не ладзіцца.

**Юлія ВАНІНА.**

**ЗДАРЭННІ**

**У ТАЛАЧЫНЕ БОМЖ АБРАБАВАЎ ХРАМ.** У сярэдзіне дня ў Талачыне ў Свята-Пакроўскай праваслаўнай царкве, якая адкрыта для наведвання, быў учынены крадзеж. З храма зніклі залатыя вырабы на 600 тысяч рублёў.

Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў прэс-службе УУС Віцебскага аблвыканкама, міліцыя аператыўна раскрыла дзёрзкае злачынства. У крадзяжы падазраецца чалавек без пэўнага месца жыхарства і работы, якога ў прастамоўі называюць бамжом. Ён затрыманы.

БелТА.

**АФІЦЫЙНА**

# О БЕЖЕНЦАХ

## ЗАКОН РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

*(17.06.1999)*

Удостоверение беженца является основным документом, подтверждающим личность беженца, законность его пребывания на территории Республики Беларусь, и не может быть произвольно изъято.

Сведения о членах семьи иностранца, признанного беженцем, не достигших возраста шестнадцати лет, заносятся в удостоверение одного из родителей, а при отсутствии родителей — в удостоверение их законного представителя либо в удостоверение одного из членов их семьи, достигшего возраста восемнадцати лет и добровольно взявшего на себя ответственность за поведение, воспитание и содержание членов семьи, не достигших возраста восемнадцати лет.

Иностранцу, признанному беженцем, достигшему возраста шестнадцати лет и прибывшему на территорию Республики Беларусь без сопровождения его законных представителей, также может быть вручено удостоверение с учетом мнения органа опеки и попечительства.

Удостоверение является основанием для регистрации в установленном порядке иностранца, признанного беженцем, и членов его семьи в органах внутренних дел по месту пребывания и получения вида на жительство на срок признания беженцем.

При получении удостоверения национальный (гражданский) паспорт и (или) другие документы, удостоверяющие личность иностранца, признанного беженцем, остаются на хранении в территориальном органе по миграции на срок признания данного иностранца беженцем.

Иностранец признается беженцем на срок до трех лет. При сохранении в государстве гражданской принадлежности (прежнего обычного местожительства) иностранца обстоятельств, предусмотренных абзацем вторым статьи 2 настоящего Закона, срок признания беженцем продлевается данному иностранцу территориальным органом по миграции по согласованию с республиканским органом государственного управления по миграции на каждые последующие пять лет.

В случае, если иностранцу отказано в признании его беженцем, территориальный орган по миграции в течение пяти рабочих дней со дня принятия решения об отказе вручает или направляет данному иностранцу по месту его пребывания уведомление с указанием причин отказа и порядка обжалования принятого решения, а также с разъяснением правового положения иностранца и членов его семьи.

Территориальные органы по миграции информируют органы внутренних дел о принятом окончательном решении об отказе в признании иностранца беженцем в Республике Беларусь.

Иностранец, получивший уведомление об отказе в признании его беженцем и не использующий право на обжалование решения об отказе в признании беженцем в соответствии со статьей 15 настоящего Закона, обязан покинуть территорию Республики Беларусь совместно с членами его семьи по истечении месячного срока со дня получения уведомления об отказе при отсутствии у данного иностранца иных законных оснований для пребывания на территории Республики Беларусь.

**Статья 12. Права и обязанности беженца**

Иностранец, признанный беженцем, и прибывшие с ним члены семьи имеют право на:

получение информации о своих правах и обязанностях, а также иной информации в соответствии с настоящей статьей;

проживание на территории Республики Беларусь на период признания иностранца беженцем по обстоятельствам, предусмотренным абзацем вторым статьи 2 настоящего Закона;

выбор населенного пункта для самостоятельного поселения по договорам найма (поднайма), аренды жилого помещения на основании удостоверения беженца;

самостоятельное поселение в семье гражданина Республики Беларусь либо постоянно проживающего в Республике Беларусь иностранца при наличии согласия всех совершеннолетних членов семьи лица, предоставляющего жилую площадь, на совместное проживание, если при вселении беженца и членов его семьи размер жилой площади будет составлять не менее шести квадратных метров на каждого проживающего;

получение в территориальном органе по миграции направления на временное поселение в соответствии с Положением о пребывании беженцев на территории Республики Беларусь, утверждаемым Правительством Республики Беларусь, в случае невозможности самостоятельного поселения;

участие в программах интеграции, разрабатываемых органами государственного управления по вопросам беженцев совместно с областными и Минским городским исполнительными комитетами;

медицинскую и лекарственную помощь наравне с гражданами Республики Беларусь, если иное не определено Конституцией Республики Беларусь, законами и международными договорами Республики Беларусь;

получение содействия в направлении на профессиональное обучение или в трудоустройстве наравне с гражданами Республики Беларусь, если иное не определено Конституцией Республики Беларусь, законами и международными договорами Республики Беларусь;

работу по найму или предпринимательскую деятельность наравне с гражданами Республики Беларусь, если иное не определено Конституцией Республики Беларусь, законами и международными договорами Республики Беларусь;

социальную защиту, в том числе социальное обеспечение, наравне с гражданами Республики Беларусь, если иное не определено Конституцией Республики Беларусь, законами и международными договорами Республики Беларусь;

получение образования наравне с гражданами Республики Беларусь, если иное не определено Конституцией Республики Беларусь, законами и международными договорами Республики Беларусь;

приобретение движимого и недвижимого имущества наравне с гражданами Республики Беларусь, если иное не определено Конституцией Республики Беларусь, законами и международными договорами Республики Беларусь;

содействие республиканского органа государственного управления по миграции в получении сведений о родственниках, проживающих в государстве гражданской принадлежности (прежнего обычного местожительства) беженца;

обращение в территориальный орган по миграции по месту пребывания иностранца и членов его семьи в целях содействия в оформлении им проездного документа для выезда за пределы территории Республики Беларусь и въезда на территорию Республики Беларусь;

получение в органах внутренних дел по месту пребывания иностранца и членов его семьи в установленном порядке вида на жительство и проездных документов для выезда за пределы территории Республики Беларусь и въезда на территорию Республики Беларусь;

обращение с заявлением о предоставлении разрешения на постоянное жительство на территории Республики Беларусь по основаниям, не связанным со статусом беженца, или на приобретение гражданства Республики Беларусь по истечении семи лет после признания беженцем в соответствии с законодательством и международными договорами Республики Беларусь;

участие в общественной деятельности наравне с гражданами Республики Беларусь, если иное не определено Конституцией Республики Беларусь, законами и международными договорами Республики Беларусь;

добровольное возвращение в государство своей гражданской принадлежности (своего прежнего обычного местожительства);

выезд на местожительство в другое государство;

получение денежной помощи и других видов помощи в порядке, определяемом Правительством Республики Беларусь;

пользование иными правами, предусмотренными законодательством и международными договорами Республики Беларусь для иностранных граждан и лиц без гражданства, постоянно проживающих в Республике Беларусь.

Иностранец, признанный беженцем, и прибывшие с ним члены его семьи обязаны:

соблюдать Конституцию Республики Беларусь, настоящий Закон и иное законодательство Республики Беларусь;

при самостоятельном поселении в течение трех рабочих дней после получения удостоверения стать на учет в территориальном органе по миграции и зарегистрироваться в органе внутренних дел по месту пребывания;

после получения в территориальном органе по миграции направления на временное поселение в течение трех суток убыть в указанный населенный пункт и по прибытии в течение трех рабочих дней зарегистрироваться в местном органе внутренних дел;

сообщать в течение семи дней в территориальный орган по миграции и при необходимости в соответствующий орган внутренних дел сведения об изменении фамилии, имени, состава семьи, семейного положения, о приобретении гражданства Республики Беларусь или гражданства другого государства либо о получении разрешения на постоянное жительство на территории Республики Беларусь;

сообщать в территориальные органы по миграции о намерении переменить место пребывания на территории Республики Беларусь либо выехать на местожительство за пределы территории Республики Беларусь;

сняться с учета в территориальном органе по миграции и в соответствующем органе внутренних дел при смене места пребывания и в течение трех рабочих дней со дня прибытия к новому месту пребывания стать на учет в территориальном органе по миграции и зарегистрироваться в органе внутренних дел;

проходить ежегодную перерегистрацию в сроки, устанавливаемые территориальными органами по миграции;

**Працяг. Пачатак у №№ 40—43.**

ЗНАХОДКА ГОДА

**У пачатку верасня прагучала сенсацыйная навіна: упершыню на тэрыторыі Беларусі знойдзены унікальны па паўнаце і разнастайнасці знаходак скарб: меч, сярэбраны бранзалет, 260 арабскіх манет і набор гірак. На думку старшага навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі АН Беларусі Алега Іова, гэты скарб з'яўляецца маёмасцю вікінга. Ён, мабыць, страціў гэтыя рэчы ў час сутычкі на караблі. Меч, кашэль з бранзалетам праляжалі ў пойме ракі каля дзесяці стагоддзяў. Папярэдняя дацыроўка скарба па мячу і дазваляе аднесці яго да X стагоддзя. Гэта перыяд актыўнага асваення вікінгамі легендарнага гандлёвага шляху з "варагаў у грэкі", які праходзіў па тэрыторыі Беларусі, па рацэ Днепр. Але толькі як гіпотэза выказвалася думка, што шлях "з варагаў у грэкі" быў шматвектарным. Знаходка скарбу вікінга на беразе Бярэзіны якраз з'яўляецца важкім доказам на карысць данай гіпотэзы.**

**У публікацыях, прысвечаных сенсацыйнай знаходцы, упушчаны адзін істотны момант. Выпадкова гэта было зроблена або не? Па тлумачэнні мы звярнуліся да кандыдата гістарычных навук, члена навуковага таварыства "Цэнтр напалеонаўскіх даследаванняў" (Францыя) і ганаровага члена "Міжнароднай напалеонаўскай асацыяцыі" (Канада) Ігара ГРУЦО.**



# НА ШЛЯХУ ВІКІНГАЎ

***— Ігар Аляксеевіч, ваша думка, як навуковага кіраўніка міжнароднага лагера: выпадкова або не знойдзены скарб вікінга на рацэ Бярэзіне?***

— Безумоўна, выпадкова, але як гэта ні парадаксальна, выпадковасць была запланаванай. Іншымі словамі, рана ці позна скарб знайшлі б. Справа ў тым, і, на жаль, пра гэта толькі мімаходзь згадана ў публікацыях, прысвечаных сенсацыйнай знаходцы, што зроблена яна была, бадай, у самым унікальным не толькі для гісторыі Беларусі, але і для ўсёй Еўропы месцы. Менавіта на Бярэзіне, у раёне вёсак Студзенка і Брылі, у лістападзе 1812 года адбылася пераправа астаткаў войскаў імператара Напалеона ў час адступлення з Расіі. Сам Напалеон, яго генералітэт, часткова гвардыя і абозы змаглі вырвацца з прыгатаванага ім на Бярэзіне акружэння. Але цана выратавання была празмерна высокай. Па розных крыніцах, ад 30 да 50 тысяч забітых, параненых і палонных.

У брацкай магіле на левым беразе Бярэзіны пахавана больш за 8 тысяч салдат напалеонаўскай арміі, прадстаўнікоў амаль усіх заходнееўрапейскіх дзяржаў. На жаль, месца гэтай брацкай магілы невядома. Знайсці яе, а таксама прывесці ў парадак помнікі на берагах Бярэзіны, даследаваць само месца пераправы — вось галоўная задача, якая стаяла перад удзельнікамі міжнароднага валанцёрскага лагера "Бярэзіна", арганізаванага лігай добраахвотнай працы моладзі. Навуковую праграму лагера распрацаваў я, а непасрэдна раскопкамі кіраваў выпускнік гістарычнага факультэта БДУ Ігар Сідаровіч.

***— Якія краіны былі прадстаўлены ўдзельнікамі лагера і наколькі паспяхова выканана праграма?***

— У лагер прыбылі прадстаўнікі з Даніі, Нідэрландаў, ЗША, Францыі, Іспаніі, Чэхіі і Беларусі — усяго 10 чалавек. Яны прыехалі, каб на свае вочы ўбачыць вядомую ва ўсіх заходнееўрапейскіх краінах раку Бярэзіну, аддаць даніну памяці сваім суайчыннікам, якія загінулі пры пераправе праз яе, і больш даведацца пра Рэспубліку Беларусь.

Валанцёры жылі ў палатках недалёка ад месца гістарычнай пераправы. Яны прывялі ў парадак помнік у вёсцы Студзенка, устаноўлены насупраць уезда на ніжні "напалеонаўскі мост", знайшлі астаткі падмурка ад помніка, які ў пачатку XX стагоддзя быў пастаўлены насупраць уезда на верхні мост, правялі археалагічныя раскопкі на месцы, як мяркуецца, захавання салдат напалеонаўскай арміі. Сёлета выявіць яго не ўдалося, а значыць, даследаванні працягнуцца ў наступным годзе.

***— Якія ўражанні ад удзелу ў валанцёрскім лагеры нашых замежных гасцей?***

— Уражанняў шмат. Тры тыдні, аб'яднаныя агульнай справай і агульнымі інтарэсамі, вельмі многа далі як нашым гасцям, так і нам. Ночы каля вогнішча, вясковая лазня, экскурсія ў Нясвіж і Мір, моўная практыка, цікавыя знаходкі — нам будзе што ўспомніць. На маю думку, праведзены разам час даў магчымасць зразумець адзін аднаго значна лепш, чым гэта можна зрабіць, седзячы каля экранаў тэлевізараў.

***— Ігар Аляксеевіч, а чаму ў пачатку інтэрв'ю вы сказалі, што знаходка, я маю на ўвазе скарб вікінга, была "запланаванай"?***

— Справа ў тым, што ўжо на працягу многіх гадоў група энтузіястаў даследуе гэта вядомае ў гісторыі Еўропы і унікальнае для гісторыі Беларусі месца. Асноўная мэта даследаванняў — поўная і падрабязная рэканструкцыя ўсіх этапаў бітвы на Бярэзіне ў лістападзе 1812 года. Іх вынікам стаў шэраг навуковых артыкулаў, апублікаваных у Беларусі, Расіі, Францыі, а таксама навуковае абгрунтаванне стварэння гісторыка-культурнага комплексу пад умоўнай назвай "Пераправа". Ініцыятыўная група, што дзейнічае ў гэтым накірунку, упэўнена: такое гістарычнае месца павінна стаць і абавязкова стане адным з галоўных турыстычных цэнтраў краіны. На месцы знакамітай пераправы, як гэта зараз робіцца ў Барадзіно, Аўстэрліцы і Ватэрлоа, будуць штогод збірацца на ваенна-гістарычныя фестывалі прадстаўнікі еўрапейскіх краін. Менавіта гэты накірунак — адзін з галоўных у дзейнасці ваенна-гістарычнага клуба "Мінскі пешы полк", які шэфствуе над месцам пераправы і штогод у гадавіну бітвы выязджае для ўскладання вянкоў да помніка на Бярэзіне. 25 чалавек у форме расійскай арміі перыяду напалеонаўскіх войнаў у поўнай амуніцыі і ўзбраенні пад разгорнутым сцягам — гэта не толькі прыгожае, але і значнае відовішча.

Вось менавіта ўся гэта работа, якая мацуецца пакуль пераважна на энтузіязме, і дазваляе мне сцвярджаць: скарб вікінга рана ці позна быў бы знойдзены, бо ён знаходзіўся ўсяго толькі за 200 метраў ад таго месца, дзе перапраўляліся ў лістападзе 1812 года напалеонаўскія войскі.

***— Традыцыйнае пытанне: якія планы на будучыню?***

— Даследаванні будуць працягвацца, і я перакананы, што нас чакае наперадзе яшчэ нямала адкрыццяў, у тым ліку і сенсацыйных.

Гутарыў **Мікалай ЛЯБЕДЗІК.**
Фота аўтара.





МЕРКАВАННЕ

# ЕЎРАПЕЙСКІЯ ДНІ СПАДЧЫНЫ

## *НАРЭШЦЕ ПАЧНЕЦЦА РЭСТАЎРАЦЫЯ НЯСВІЖСКАГА ПАЛАЦА*

У Беларусі прайшлі "Еўрапейскія дні спадчыны-2000". З гэтай нагоды адбылася сустрэча прадстаўнікоў Міністэрстваў культуры і адукацыі з журналістамі. Як паведаміў старшыня Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Дзмітрый Бубноўскі, такое мерапрыемства ладзіцца ў Еўропе ўжо дзесяты раз, яго ініцыятар — Францыя, цяперашні лідэр Савета Еўропы. Сёлета да акцыі далучылася нават паўднёва-амерыканская краіна — Канада. Асаблівасць Дзён спадчыны ў тым, што ў верасні кожная краіна вызначыла тэрмін свабоднага бясплатнага наведвання музеяў — як дзяржаўных, так і прыватных.

У Беларусі пад эгідай беларускіх Дзён спадчыны прайшлі фестываль нацыянальных культур у Гродне, культуралагічныя канферэнцыі. Операй "Фауст" распачалася панарама еўрапейскай музыкі. Завяршылася акцыя паказам у ТЮГу спектакля "Палачанка".

Беларускім музеям — а іх 134 (54 — філіялы) — катастрафічна не хапае плошчаў. Яны могуць паказаць толькі 8 працэнтаў ад сваіх фондаў. Таму частка музеяў існуе ў выглядзе перасоўных выстаў. Але ідзе і будоўля. Хутка з'явіцца новы корпус у Мастацкім музеі.

На прэс-канферэнцыі ішла гаворка і пра аднаўленне помнікаў культуры Беларусі. Хутка павінна скончыцца рэстаўрацыя Камянецкай вежы. І там наша краіна, магчыма, будзе прымаць экспанаты міжнароднага фотаконкурсу.

Нарэшце сур'ёзна пачалі займацца праектам рэстаўрацыі і музеефікацыі Нясвіжскага палаца, дзе цяпер месціцца санаторый. На гэты конт Дзмітрый Бубноўскі сказаў: "У будучыні Нясвіжскі палац плануецца час ад часу выкарыстоўваць у якасці загараднай рэзідэнцыі Прэзідэнта Беларусі. Наш камітэт звяртаўся ў Адміністрацыю Прэзідэнта з просьбай акрэсліць дадатковыя ўмовы, якія неабходна выканаць у сувязі з гэтым падчас стварэння праекта музеефікацыі палаца. Нам паведамілі, што ніякіх спецыяльных змяненняў не спатрэбіцца".

**Алена СПАСЮК.**

ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ: УМЕЛЬЦЫ З БЯЛЯЕЎКІ

Багатая наша зямля на таленавітых людзей. І гэта не толькі ад Бога, але і ад усім вядомай працавітасці беларусаў. Ведаеш гэта, але ўсё роўна здзіўляешся, калі сустракаеш у адной вёсцы людзей з рознымі захапленнямі.

Нібыта непрыкметная, на першы погляд, вёска Бяляеўка ў Чачэрскім раёне. А прайдзі па дварах і знойдзеш тут майстроў пляцення з лазы і ткачых, бондара і разьбяра... І нават мастака-жывапісца. Гэта Васіль Зяцікаў. Нідзе не вучыўся ён жывапісу, але любоў да сваёй зямлі, захапленне прыгажосцю наваколля зрабілі сваю справу, і Васіль Кузьміч зараз не ўяўляе сваё жыццё без палітры.

Пётр Карніенка ўжо размяняў восьмы дзесятак і, колькі памятае сябе, увесь час займаўся бондарскай справай. Для яго зрабіць дзяжу ці рапеку, цэбар ці бочку — ніякіх праблем. Колькі вяскоўцаў карыстаюцца яго вырабамі — не злічыць.

А ў конюха мясцовага лясніцтва Міхала Гапеенкі амаль што хвіліны вольнай няма. На ягоныя кошыкі зараз найвялікшы попыт: і бульбу збіраць, і яблыкі, і па грыбы схадзіць.

Вось такія людзі жывуць у Бяляеўцы — сціплыя і паважаныя вяскоўцамі, бо кожны сумленна робіць сваю справу.

**Тэкст і фота Яўгена КАЗЮЛІ.**



*Майстар лозапляцення Міхал ГАПЕЕНКА.*



*Бондар Пётр КАРНІЕНКА.*



*Мастак Васіль ЗЯЦІКАЎ.*



## СА СКАРБАЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА МАСТАЦКАГА МУЗЕЯ





# «ДАТАВАНЫЯ ПОМНІКІ МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ XVII–XVIII СТАГОДДЗЯЎ» –

### ТАК НАЗЫВАЛАСЯ ЭКСПАЗІЦЫЯ, ЯКАЯ ЗАЦІКАВІЛА ШМАТЛІКІХ АМАТАРАЎ МАСТАЦТВА

**Выстава складалася з твораў, якія захоўваюцца ў фондах мастацкага музея. На адкрыцці прагучаў канцэрт старадаўняй музыкі. Ансамбль "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдаева выканаў творы Станіслава Манюшкі, Мацея Радзівіла, Міхала Клеафаса Агінскага.**

**НА ЗДЫМКАХ:** **знаёмства з выставай; 1642—1646 гады. Ежы, Георг Цэль. "Фрагмент кансолі з гарэльефным адлюстраваннем анёла"; 1751 год. Манаграміст М. В. "Мікола".**

**Фота БелТА.**



## СТАСУНКІ

# 2000-ны ГОД — ГОД МІКАЛАЯ ЦІМАФЕЕВА-РАСОЎСКАГА

Больш за сотню замежных удзельнікаў — вучняў і паслядоўнікаў Мікалая Цімафеева-Расоўскага (1900—1981), аднаго з буйнейшых біёлагаў XX стагоддзя, заснавальніка радыяцыйнай генетыкі, біягеацэналогіі і малекулярнай біялогіі — сабрала Міжнародная канферэнцыя, прысвечаная 100-гадоваму юбілею вучонага. Яна прайшла ў Мінску ў Міжнародным экалагічным універсітэце імя А. Д. Сахарава. ЮНЕСКА аб'явіла 2000 год Годам М. Цімафеева-Расоўскага, і ў многіх краінах праходзяць мерапрыемствы, прысвечаныя юбілейнай даце.

Для Беларусі спадчына вучонага каштоўная ўдвая, бо дазваляе глыбей вывучаць уздзеянне малых доз радыяцыі на жывыя арганізмы. Яго працы леглі ў аснову тэхналогій, што прымяняліся пры ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

**С. К.**

## АСТРАЎКІ БЕЛАРУШЧЫНЫ

# Мікола ЧАБАН: «ЗАСПЯВАЙ МНЕ НА МАТЧЫНАЙ МОВЕ»

Ідэя кнігі "Заспявай мне на матчынай мове" нарадзілася на пачатку 80-х гадоў. Тады я, нядаўні выпускнік Днепрапятроўскага універсітэта, захапіўся запісамі фальклору беларускай вёскі Сурска-Літоўскай, размешчанай паблізу Днепрапятроўска. Працаваў тады ў Днепрадзяржынску, а ў выхадныя браў магнітафон і рушыў у фальклорную экспедыцыю. На маю зацікаўленасць фальклорам беларусаў, якія жывуць у цэнтры Украіны, уплывала і тое, што мая мама Лідзія Іванаўна — беларуска, родам з Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Вынікам маёй цікаўнасці сталася некалькі публікацый у беларускім друку: "Ніве" (Беласток, Польшча, 23 жніўня 1981 года), газеце "Дняпроўская праўда" (Дуброўна, 23 кастрычніка — 11 лістапада 1982 г.) і "Голас Радзімы" (Мінск, 11 лістапада 1982 г.).

Як жа апынуліся беларусы Сурска-Літоўскай на ўкраінскай зямлі? Дарэчы, таго-сяго ўводзіць у зман назва вёскі. Трэба адразу абмовіцца: літоўцаў тут ніколі не было. Ды нават у паважаных даследчыкаў надараюцца кур'ёзы. В. Дружыніна, аўтар кнігі "Паўднёвая Украіна ў перыяд крызісу феадалізму. 1825—1860 гады" (Масква, "Навука", 1981), распавядаючы пра засяленне Екацярынаслаўшчыны напрыканцы XVIII стагоддзя, піша літаральна такое: "На казённыя мануфактуры пераводзілі таксама беларусаў і літоўцаў. Адсюль назва вёскі Сурска-Літоўская (або Сурска-Фабрычная), размешчанай на рацэ Вялікая Сура паблізу Екацярынаслава. Спакваля літоўцы змяшаліся з жыхарамі іншых народнасцей", — чытаем на 35-й старонцы манаграфіі.

Даводзіцца паўтарацца: да назвы Сурска-Літоўская літоўцы дачынення не маюць. Літвінамі здаўна называюць беларусаў як насельнікаў Вялікага княства Літоўскага. Блытаніны з найменнямі тады хапала. Прыкладам, ці не здаецца дзіўным, што суконная мануфактура пад назвай "Екацярынаслаўская" першапачаткова, у 1786—1794 гадах, знаходзілася не на Украіне, а на Беларусі — у мястэчку Дуброўна Магілёўскай губерні (цяпер Віцебская вобласць). І адначасова ў вёсцы Купаўна пад Масквой пачала працаваць "Екацярынаслаўская" мануфактура — шоўкапанчошная.

В. Дружыніна тлумачыць гэта тым, што новазаснаваны Екацярынаслаў тады яшчэ толькі будаваўся. У першыя гады ў ім не было дзе размясціць нават губернскай управы, не кажучы ўжо пра прамысловыя прадпрыемствы.

Дык вось кадры спецыялістаў былі згуртаваны ў Дуброўне. І калі ў Екацярынаславе па ініцыятыве Г. Пацёмкіна адкрываецца суконная фабрыка, сюды ў 1794 годзе пераводзяць суконную і шоўкапанчошную мануфактуры, якія неўзабаве зліліся ў адно прадпрыемства. Беларусы, перасеrange на новае месца, хутка пачалі даваць прадукцыю. Тады ж у Слабадзе Сурскай — за во-



семдзесят вёрст ад горада — пасялілі прыпісных сялян з Беларусі. Яны займаліся і земляробствам.

У якіх жа ўмовах жылі перасяленцы з Беларусі? У першыя гады іх становішча было надта цяжкім. Вось вынятка з рапарта дырэктара казённай фабрыкі Кнорынга: "Пабудаваныя 225 хат да вясны заставаліся неабмазанымі, а дахі падрадчыкам былі так пакрыты, што іх трэба было перакрываць. Яравой пшаніцы сялянам адпусцілі мала і са спазненнем, і таму ўсё, што пасеялі, згінула, ураджай не ўрадзіў. А жыта з казны, летась для іх пасеянае, зжата і пасля размеркавання дасталося кожнай сям'і толькі па паўтары капы, якога не толькі на ежу да будучага ўраджаю вобмаль, але і на сяўбу для вялікіх сямей не хапала".

У перасяленцаў было і шмат іншых праблем. Па-першае, яны не звыкліся з новай вадой, якая ў летні час пачала цвісці. Студняў жа не было, і людзі змушаны былі для прыгатавання ежы браць ваду з Суры. У выніку нямала беларусаў захварэла на ліхаманку. З Дуброўна было прывезена 292 майстравых і 205 фабрычных сялян. Частка з іх засталася працаваць у Екацярынаславе на суконна-панчошнай фабрыцы.

Праз чатыры гады пасля пасялення, а менавіта ў 1798 годзе, у вёсцы налічвалася 232 двары з насельніцтвам 1 193 чалавекі — 638 мужчын і 555 жанчын. Спачатку вёску назвалі слабадою Сурскаю па назве ракі. Крыху пазней — фабрычнаю слабадой Сурска-Літоўскаю, і толькі ў сярэдзіне XIX стагоддзя — сялом Сурска-Літоўскім.

Цікавыя звесткі наконт царквы ў Сурска-Літоўскім ёсць у кніжцы Феадосія "Материалы для историко-статистического описания Екатеринославской епархии" (1880). З яе мы даведваемся, што фабрычныя сяляне 18 ліпеня 1803 года ад імя ўсёй грамады падалі ў кантору екацярынаслаўскіх казённых фабрык просьбу адкрыць у іх царкву. Сяляне яшчэ па пераездзе з Беларусі марылі пра храм у сваім сяле. Аднак матэрыяльныя нястачы не дазвалялі здзейсніць намер. Таму нярэдка народжаных не хрысцілі, а хворыя паміралі без споведзі і святога прычасця. Праўда, насельнікі хадзілі ў збудаваную яшчэ да іх прыезду царкву ў слабадзе пана Васіля Шостака. Гэтая слабада была найбліжэйшай ад сяла. Ды часта здаралася так, што рэчка Сура перашкаджала сялянам, якія жылі на яе левым беразе, хадзіць у царкву. Да таго ж і святар быў замацаваны за досыць вялікаю колькасцю парафіян, якія жылі на хутарах, часта па гэтай прычыне быў у раз'ездах, і таму яму бракавала часу наведвацца ў Сурска-Літоўскае для спаўнення хрысціянскіх патрэб мясцовых прыхаджан.

Каб пазбегнуць гэтых нязручнасцей, сурска-літоўцы прыгледзелі сабе скасаваную ўздоўж сяла Новыя Кайдакі драўляную Святадухаўскую царкву. Яны выторгавалі яе з іканастасам і з усім царкоўным начыннем за 1 500 рублёў. Аднак з-за сваёй беднасці сяляне не былі здольныя збудаваць у сябе каменную царкву і перанесці туды гатовы іканастас і начынне. Таму да пабудовы каменнай царквы сяляне прасілі кантору фабрык паспрыяць перавозцы да іх у слабаду драўлянай царквы, змураваўшы пад яе для бяспекі каменны падмурак. Каменя ў Сурску-Літоўскім хапала.

Кіраўнік казённых фабрык Адрыян Гускаў ужо праз тры дні звярнуўся да екацярынаслаўскага цывільнага губернатара. Ён прасіў паклапаціцца перад праасвяшчэнным Афанасіем пра дазвол і дабраславенне на адкрыццё драўлянай царквы ў фабрычнай слабадзе Сурска-Літоўскай. Губернатар звярнуўся да Афанасія. Двойчы прасіў пра гэта і князь Дзмітрый Валконскі. Усе паперы былі пасланы ў свяшчэнны Сінод. Указам ад 3 кастрычніка 1805 года паводле найвысачэйшага ўказа імператара, святы Сінод дазволіў купленую ў Новых Кайданах Святадухаўскую царкву перанесці "ў слабаду Літоўскую і паставіць часова да пабудовы каменнай".

А лёс Екацярынаслаўскай суконнай фабрыкі? Як піша Дзмітро Яварніцкі ў сваёй "Історіі міста Катеринослава", апошнім дырэктарам фабрыкі быў Васіль Драгневіч. Ён падаў праект наконт закрыцця фабрыкі, указаўшы на велізарныя выдаткі на яе, на крадзяжы і злоўжыванні, з якімі дырэктару даводзілася пастаянна змагацца. Драгневіч даводзіў, што для казны значна выгадней і зручней нарыхтоўваць для гвардыі сукно на прыватных фабрыках. Праект Драгневіча ўхвалілі, і казённая фабрыка ў Екацярынаславе спыніла сваё існаванне ў 1837 годзе.

Ды не знікла на карце вобласці Сурска-Літоўскае. Фальклор — найяскравая прыкмета сяла. І хоць сёе-тое змянілася, зразумела, пад уплывам часу і атачэння, у аснове яго ляжаць абрады, песні, звычаі, звыш двухсот гадоў узятыя перасяленцамі з родных мясцін. Па сутнасці, пад песнямі можна паставіць 1794 год запісу, нібыта тады камусьці прыйшла думка запісаць іх... Самыя шматлікія і пашыраныя тут вясельныя песні. Ды і ўсе забавы, якімі людзі вітаюць нараджэнне новай сям'і, маюць маляўнічы, вясёлы і па-народнаму дасціпны каларыт. Абавязковы сват, сваццця і абрад сватання (хоць, вядома, рашэнне закаханых папярэднічае гэтаму).

Па традыцыі вяселле "гуляюць" тры дні. У першы дзень, рэч вядомая, усе ўрачыстасці — рэгістрацыя шлюбу ў сельсавеце, бацькоўскія віншаванні. На другі дзень ужо сваякі і блізкія "нясуць кварты", гэта значыць, свае пачастункі на вяселле. Трэці дзень — так званыя "куры". Госці з торбаю і музыкамі абходзяць мястэчка, пачынаючы з хат сватоў, і збіраюць курэй. Як правіла, сват маладога павінен вынесці пеўня, сват маладой — курку... Смажаніна ў гэты дзень — галоўная страва застолля. Пра вяселле распавяла мне Сафія Савітчанка, адна са шчырых захавальніц мясцовых традыцый, цудоўная пявуння, народная майстрыха. Яна і кветкі ўмее выштукаваць, якімі раней упрыгожвалі на вяселлях коней, і "гурт" арганізаваць, каб сустрэць нявесту песняю ля хаты жаніха. А колькі на вяселлі іскрыстых жартаў, дасціпных кпінаў, пажаданняў — паважных і не зусім. Ці не ўсё мястэчка бярэ ўдзел у сямейным свяце.

— Вясельныя звычаі, — кажа Сафія Данілаўна, — маюць у Сурска-Літоўскім даўнія традыцыі, і яны, па-мойму, не знікнуць. Цяпер у нашым сяле жыве нямала прышлых, але нашых звычаяў яны трымаюцца. На свае вяселлі клічуць нашых карэнных літвінаў, просяць парады і дапамогі ў падрыхтоўцы свята.

Прыгадваюцца словы беларускага класіка Цёткі: "Наша народная песня вылілася з сэрца і фантазіі ўсяго народа беларускага і таму называецца народнай. Гэтую песню наш народ складаў стагоддзямі ў розныя мінуты свайго жыцця: ён як бы ўклаў у вузкія рамкі песні ўсе свае радасці, свой смех, сваё гора, лёс і беды, слёзы жыццёвыя".

Да нядаўняга часу ў большасці жыхароў сяла Сурска-Літоўскага ў пашпартах супраць графы "нацыянальнасць" было напісана — беларус. На жаль, у пашпарце Украіны такога запісу ўжо няма. І ўсё ж не згубілася на крутых паваротах гісторыі беларускае "зернейка". Колісь беларускі паэт Рыгор Барадулін вобразна сказаў пра Беларусь — "на ўзмежках цвіла і выстаяла..." Так можна з пэўнай падставай сказаць і пра беларускую вёску на Днепрапятроўшчыне, у самым цэнтры Украіны, паблізу вялікага прамысловага горада з яго магутным асіміляцыйным уплывам. Моцна, учэпіста закаранілася беларускае зярнятка на ўкраінскай зямлі, выстаяла на вятрах гісторыі і, мяркую, будзе красаваць і далей.

*Пераклад з украінскай мовы Яўгена ЛЕЦКІ.*

Пачатак тэмы ў №№ 42, 43.

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

### ЭСТОНІЯ

Паважаная рэдакцыя! Ад імя беларускай суполкі "БЭЗ" Паўночна-Усходняй Эстоніі хачу падзякаваць за газету, якую шмат гадоў атрымліваем ад вас і з якой даведваемся пра навіны Беларусі і жыцця беларусаў замежжа. На старонках газеты знаходжу многа знаёмых імёнаў. На сходах, курсах, канферэнцыях за 11 год існавання суполкі і 10 год "ЗБС "Бацькаўшчына" набылі добрых сяброў, адданых справе беларускага адраджэння. І заўсёды лічылі за шчасце падзяліцца адзін з адным сваімі набыткамі ў развіцці культуры беларускага замежжа...

З павагай

**Маргарыта АСТРАУМАВА,**
**старшыня беларускай суполкі "БЭЗ".**

### ІТАЛІЯ

Мае дарагія людзі, усім вам прывітанне ад мяне. Паведамляю, што газету атрымліваю, зараз трымаю ў руках 35-ты нумар. Вялікі дзякуй ад усяго сэрца за ўвагу.

Спадзяюся, што ў роднай Беларусі ўсё добра.

Абдымаю ўсіх моцна.

**Леанарда МАЛЕЕВА.**
Мілан.

### ЛІТВА

### ВАНДРОЎКА Ў ЗЭЛЬВУ

Непадалёку ад беларускага горада Гродна знаходзіцца прыгожае невялікае мястэчка Зэльва. З першага погляду, нічым непрыкметная мясціна Беларусі. Але за заслонай звычайнасці схавана казачнасць, гістарычнасць Зэльвы.

Па вулачках Зэльвы хадзіла вядомая беларуская паэтка Ларыса Геніюш. Тут яна правяла значную частку жыцця, пахавала свайго мужа. Пасуседску размешчаныя вокны мелі вочы, якія пільна сачылі за кожным крокам паэткі, "ворагам народа".

З усіх бакоў Зэльву акружае вялікі сасновы лес, а на зялёнай прасторы раскінулася вадасховішча. За дваццаць кіламетраў ад Зэльвы, у вёсцы Сынковічы, стаіць старажытная царква, якая ў сваіх сценах захоўвае гісторыю нашых продкаў і таямніцы, якія мы не можам разгадаць да цяперашняга часу. Калі ўваходзіш у царкву, здаецца, што апынаешся ў тых часах, калі жылі вялікія князі, калі жыў князь Вітаўт, які, па паданнях, і пабудаваў яе прыкладна ў 1406 годзе.

Каб адчуць прыгажосць і непаўторнасць гарадка, трэба туды прыехаць, пахадзіць па вулачках, паразмаўляць з людзьмі, якія там жывуць, і проста адчуць водар Зэльвы.

**Наталля ПУТКОВА,**
**вучаніца Віленскай сярэдняй школы імя Ф. Скарыны.**

## КІТАЙСКІ МЕДАЛЬ ВЕРАНІКІ



● **Сяргей ХАЛАДЗІЛІН**, БелТА.

У праграме візіту на Гомельшчыну Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь У Сяоцю была і адна незвычайная сустрэча: яна наведала сваю знаёмую — студэнтку Беларускага універсітэта транспарту Вераніку Шлык у яе дома. Юная гамяльчанка займаецца вырабам карцін у стылі "маркетры" з бяросты. Калі ў час першага візіту ў Гомель паслу ў якасці сувеніра была паднесена работа Веранікі, яна так расчулілася, што ўручыла ёй юбілейны, у гонар 50-годдзя КНР, медаль.

На гэты раз было знаёмства з новымі работамі Веранікі. І не толькі. Ёй зрабілі прапанову паехаць на стажыроўку ў Кітай. І зараз паміж заняткамі ў ВНУ і майстэрняй Вераніка шукае час для вывучэння кітайскай мовы: раптам спатрэбіцца.

## КЛУБ БЕЛАРУСКІХ ШКОЛ



# ЯК У КАЗЦЫ

Урачыстае адкрыццё новага будынка пачатковай школы і гімназіі ў Дубінах адбылося 20 верасня 2000 года з удзелам мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы Савы, падляшскага ваяводы Крыстыны Лукашук, самаўрадавых улад і шматлікіх гасцей, якія дапамаглі пры будаўніцтве школы.

Вельмі спадабаліся вучням, бацькам і настаўнікам прыгожа запраектаваная актавая зала, шырокія калідоры, прасторныя і светлыя кабінеты для навучання і цікавы вонкавы выгляд.

Да гэтай пары дзеці з пачатковай школы вучыліся ў двух старых драўляных будынках у Дубінах і Навасадах, узведзеных яшчэ ў міжваенны перыяд. Гімназісты вучыліся ў пачатковых школах у Дубінах і Арэшкаве, а іхнія настаўнікі ездзілі з адной вёскі ў другую.

Пастанову аб будаўніцтве новай школы Рада гміны прыняла яшчэ ў 1995 годзе, але гэтай ідэі не ажыццяўляла, бо не магла разлічваць на частковае фінансаванне Кураторыяй у Беластоку. Пытанне аб інвестыцыйных працах радныя вырашылі ў лістападзе 1998 года, калі паявіліся грошы ў рамках "Кантракта для Белавежскай пушчы". Краевугольны камень закладзены быў 22 ліпеня 1999 года, і тады праца пайшла хуткімі тэмпамі. Уся інвестыцыя складала 5 мільёнаў 400 тысяч злотых. З "Кантракта для Белавежскай пушчы" гміна атрымала 2 мільёны 400 тысяч злотых, 1 мільён 800 тысяч злотых складаў крэдыт, а астатні мільён злотых — уласныя сродкі. 9 тысяч злотых сабраў Грамадскі камітэт будаўніцтва школы, 20 тысяч злотых паступіла з Кураторыі ў Беластоку на абсталяванне класаў. Гмінныя ўлады вымушаны яшчэ шукаць дадатковыя сродкі, каб заплаціць за будаўніцтва.

— Не спраўдзіліся сумненні, што ў школе не будзе дзяцей, — сказала Вольга Рыгаровіч.

У новым навучальным годзе пачалі заняткі 120 вучняў у пачатковай школе ды 81 вучань у гімназіі. Будуць яны займацца ў 13 новых класах, сярод якіх адзін чакае абяцаных гімназіі камп'ютэраў. Малодшых дзяцей з 14 навакольных вёсак і пасёлкаў ды старэйшых вучняў з усёй гміны падвозяць у школу два новыя аўтобусы, якія могуць забраць звыш 50 вучняў.

Пасля арганізацыйных змен у гміннай асвеце некаторыя настаўнікі вымушаны працаваць у некалькіх школах. Найбольш настаўнікаў даязджае ў гімназію, у якой з чатырма аддзеламі працуе 14 педагогаў. У пачатковай школе з вучнямі працуюць 16 педагогаў, у тым ліку новая настаўніца беларускай мовы Ніна Куптэль, якая раней працавала ў Навакорніне.

— Каля 85 працэнтаў з пачатковай школы ходзіць на ўрокі беларускай мовы, — заявіла дырэктар Ніна Валкавыцкая.

У гімназічных класах толькі каля 50 працэнтаў вучняў выказалі жаданне хадзіць на ўрокі беларускай мовы, але настаўніца Ніна Куптэль, якая паказалася ў Навакорніне як добры педагог, спадзяецца, што колькасць вучняў у будучыні павялічыцца.

**Аляксей МАРОЗ.**
("Ніва").

*НА ЗДЫМКУ:* госці перад новым школьным будынкам у Дубінах.

## З НАГОДЫ 70-годдзя Алеся БАРСКАГА

# СВЕТ ВЕЧНЫХ

*Хто я ў жыцці?*
*Я толькі пералётны жораў!*
*На крылах песні узлячу*
*І не вярнуся!*
*Хай рэха сто разоў*
*Сэнс маіх слоў паўторыць —*
*Аб тым, што жыў я*
*І жыву для Беларусі.*

Гэтыя пранікнёныя словы належаць пяру Алеся Барскага — беларускага паэта, які жыве і творыць у Польшчы. Трэба сказаць, што А. Барскі — аўтар арыгінальных кніг паэзіі, член Саюзаў пісьменнікаў Беларусі і Польшчы, знаны вучоны-філолаг, універсітэцкі прафесар, укладальнік падручнікаў для школ і ВНУ, даследаванняў па беларускаму фальклору. У яго перакладзе на польскую мову пабачылі свет зборнікі беларускіх, украінскіх і рускіх казак, паэтычныя кнігі В. Лукшы, А. Пысіна, В. Віткі. Актыўна выступае А. Барскі як публіцыст, грамадскі дзеяч.

Нарадзіўся Алесь Барскі (Аляксандр Андрэевіч Баршчэўскі) 2 лістапада 1930 года ў вёсцы Бандары Беластоцкага ваяводства (Польшча). Маленства праходзіла ў жывапісных белавежскіх мясцінах. Выхаванне ў традыцыях беларускай сялянскай сям'і, першыя спробы цяжкай хлебаробчай працы, вучоба ў беларускім ліцэі запачаткавалі трывалыя маральныя асновы паэта. Часы сталення характару прыпалі на складаны перыяд канца 30-х — 40-х гадоў, калі па беластоцкай зямлі праходзілі іншамоўныя войскі, змяняліся ўлады, усталёўвалася дзяржаўнасць. Згадаем, што беластоцкая зямля — гістарычна беларуская, якая ў 1944, пасля многіх палітычных змен, увайшла ў дзяржаўныя межы Польшчы. У гэтым віхурным палітычным калаўроце спасцігаў сваю нацыянальную прыналежнасць, абіраў жыццёвыя пуцявіны юнак з Белавежжа.

У сярэдзіне 50-х гадоў распачаўся актыўны грамадска-культурны рух беларускай меншасці ў Польшчы. Дзейнасць БГКТ і літаб'яднання "Белавежа" была якраз тымі знешнімі аб'ектыўнымі варункамі, якія замацоўвалі патрыятычную пазіцыю маладога паэта. Алесь Барскі згадвае, што спрабаваў пісаць яшчэ ў сярэдзіне саракавых гадоў, але ж сапраўдны літаратурны дэбют адбыўся ў 1959 годзе, калі ў Польшчы ў беларускай газеце "Ніва" быў надрукаваны верш "Восень". Трэба сказаць, што ўсе беластоцкія пісьменнікі прэзентавалі сваю творчасць на старонках выданняў "Ніва", "Беларускі каляндар", альманаха "Белавежжа". Літаратурная суполка, што згрупавала творча настроеную беларускую моладзь, стварала той асяродак, у якім магла развівацца і сталець яркая паэтычная індывідуальнасць.

"**Белавежскія матывы**" — першы зборнік паэта пабачыў свет у 1962 годзе ў Беластоку. Яго прысвячэннем — "Беларускай моладзі ў Польшчы" — аўтар акрэсліў хаалагічныя і прасторавыя прыкметы таго чытацкага асяроддзя, з якога выйшаў сам і для якога ствараў сваю паэзію. Строгая запатрабавальнасць да ўласнай творчасці, устаноўка на пастаяннае ўдасканальванне майстэрства чуюцца ў іранічнай "Аўтабіяграфіі", што змешчана напрыканцы зборніка: *"Адчуваю радасць, але толькі ў стадыі паўставання верша. Калі чытаю закончаны твор, адчуваю незадавальненне, калі слухаю свой верш ў выкананні другіх асоб, маё расчараванне даходзіць да крайнасці"*. Большасць вершаў той пары — спроба мастацка-паэтычнага асэнсавання разнастайных праяў рэчаіснасці, фактаў гісторыі і сучаснасці, законаў быцця. Па сутнасці, гэта яшчэ пошук уласных тэм, выгрунтоўванне самабытнай мастакоўскай канцэпцыі. Паэтычныя тэксты, як правіла, рытмічна вывераныя, старанна прарыфмаваныя, з трапнай, хоць часцей нескладанай, вобразнасцю. У "Белавежскіх матывах" ужо дакладна абазначаюцца тыя ідэйна-зместавыя арыенціры, якія стануць дамінуючымі ў творчасці Алеся Барскага: Бацькаўшчына, прырода, каханне...

*Ля ціхай хаты, на галінах,*
*Калыша птушак*
*дуб-равеснік.*
*І гэта ёсць мая айчына,*
*Якой спяваю свае песні.*
*Тут бацька жыў і брат*
*загінуў*
*У грозным годзе сорак*
*першым.*
*Гэта і ёсць мая айчына,*
*Якой я прысвячаю вершы.*

"Белавежскія матывы" шмат у якіх сваіх праявах нясуць моцны зарад публіцыстычнасці, нават адкрытай рыторыкі. З маладым максімалізмам глядзіць на свет герой А. Барскага. Ён, як уяўляецца, імкнецца занатаваць у своеасаблівым паэтычным дзённіку ўсе думкі і ўражанні, што пастаянна захапляюць чулае сэрца. Ёсць у зборніку творы, прысвечаныя КПЗБ і "Грамадзе", гістарычным постацям К. Каліноўскага і П. Багрыма, беларускаму ліцэю ў Бельску, яго настаўнікам і вучням. Арыгінальная нізка вершаў-зваротаў ("Да каня", "Да акторкі", "Да кнігі"...) выявіла аўтарскі густ да афарыстычнасці паэтычнага радка. Даныя тэксты зацікаўліваюць празрыстай алегорыяй, іранічным абагульненнем думак і высноў. У вершы "Да студэнткі", напрыклад, узнаўляюцца нязводныя ісціны жаночага прызначэння: *"Ты сталася вялікай дамай, / Дай божа быць табе вясковай мамай"*.

Другая паэтычная кніга "**Жнівень слоў**" (Беласток, 1967) уяўляецца грунтоўнай і сталай. Цэнтральнымі, якія праходзяць праз усе тры часткі кнігі — "Фрэскі", "Карціны", "Акварэлі" — з'яўляюцца тэмы Радзімы, мастака і мастацтва. Акт творчасці для героя гэтага зборніка ўяўляецца ледзь не жыццёва важнай патрэбай арганізма, таму творчая неспатоленасць змушае выштукоўваць вершы бесперастанку. Не ўсе яны, безумоўна, маюць манументальнасць фрэсак ці празрыстую лёгкасць акварэляў, але ў лепшых сваіх творах А. Барскі раскрываецца як засяроджаны філосаф, таленавіты жывапісец, страсны прамоўца. У "Жніўні слоў" дакладна выяўлена тэндэнцыя да паглыблення, ускладнення ідэйнага зместу, шырокае выкарыстанне сродкаў асацыятыўна-ўмоўнай вобразнасці. Сваю пазіцыю лірычны герой абазначае так:

*...складаю вершы-фрэскі*
*у форму вобліку Айчыны.*

Разам з тым трэба заўважыць, што паэт не захапляецца сляпым апяваннем. У яго вершах можна сустрэць надзвычай крытычныя радкі, "непрычасаныя" думкі скептычна настроенага сучасніка, калі ён можа наступным чынам спрагназаваць сваю будучыню: *"і анямею, нібы краіна, // і стану тыповым // дзіцём Беларусі"*.

"Карціны" па-свойму канкрэтызуюць зададзеныя ў "Фрэсках" тэмы. Тут пераважаюць настроі тугі, расчаравання, меланхоліі, трывогі. Сам герой усхвалявана прамаўляе: *"...ломяцца пэндзлі, // крышацца фрэскаў аблічча, // Які ж я паэт, // без трывогі, без нэндзы?"* Паэт задумваецца над мэтазгоднасцю цывілізатарскага развіцця, над вартасцю "дасягненняў" сучаснасці. Ён шукае тыя апірышчы ў духоўнай прасторы гістарычнага досведу, дзякуючы якім чалавек застаецца Чалавекам. Адной з такіх асноў для кожнага з'яўляецца святое пачуццё да маці. Зварот да вобраза самай роднай жанчыны, як правіла, суправаджаецца пачуццём самоты, тугі. Матыў неаплатнага доўгу перад маці, так узнёсла апеты ў беларускай літаратуры яшчэ Максімам Багдановічам, заўсёды прысутнічае ў творчасці паэта-"белавежца".

*Як толькі рассее*
*ў жытнёвых разлогах*
*валошку з хусцінкі*
*рука Беларусі,*
*мама, ты клікні*
*ціхутка з парога,*
*я ў Лодзі пачую*
*і з Лодзі вярнуся.*



# ПАРАДОКСАЎ

У сучаснага беларуса, свядомага і духоўна чулага, вобраз маці асэнсоўваецца ў непарыўным двуадзінстве Маці — Радзіма і ўспрымаецца ў трагічным пафасе. Трэба згадаць, што творчая і жыццёвая сітуацыя беластоцкіх пісьменнікаў акрэслена своеасаблівым драматызмам. Яны — жыхары памежжа — з'яўляюцца, па сутнасці, пасынкамі і для Польшчы, і для Беларусі. Няспыннае адміранне, адыход у нябыт усяго роднага, аўтэнтычна блізкага спараджае нялёгкія думкі. У творчасці "белавежцаў" характэрным з'яўляецца матыў вяртання да вытокаў жыццёвага шляху, падарожжа-ўспаміну. Але аб'ектыўнае разуменне незваротнасці жыццёвых працэсаў афарбоўвае творчасць беластоцкіх пісьменнікаў у тужліва-шчымлівыя колеры. Толькі такая метафізічная вандроўка, увасобленая ў мастацкіх творах, здольная яшчэ цешыць душу святымі дзіцячымі радасцямі, шчырымі парываннямі і надзеямі.

*Далёкая, далёкая мінуласць,*
*атуленая матчынай*
*далонню,*
*ты з чымсьці добрым,*
*з чымсьці чулым,*
*што не забыць і не*
*запомніць.*
*Цябе няма,*
*і ёсць ты адначасна...*

З цягам часу, па меры развіцця дзейнасці БГКТ і "Белавежы", творчасцю польскіх беларусаў зацікавіліся ў метраполіі. Творы "белавежцаў" сталі ўсё часцей з'яўляцца на старонках беларускіх рэспубліканскіх выданняў, пачалі выдавацца аўтарскія асобнікі. У зборніку "Мой бераг" (Мінск, 1975) А. Барскі сабраў свае найлепшыя творы, напісаныя на той час, і значную колькасць новых вершаў. Кніга адкрыла для масавага беларускага чытача пранікнёную паэзію арыгінальнага аўтара.

Натуральнай чуласцю напоўнена любоўная лірыка Алеся Барскага. Апяванне кахання, радасці чалавечых узаемаадносін гарманічна гучыць у агульнай паэтычнай плыні. Герой беластоцкага паэта пачувае сябе шчаслівым, а жыццё сваё паўнакроўным, калі яно жывіцца сілай любові, нават полымем спапяляючай жарсці. І тут паэт знаходзіць такія словы, образы, каб стварыць адчуванне святасці і сапраўднасці звычайнага зямнога пачуцця.

*Пойдзем, каханая, у шэры*
*дождж,*
*прамокнем,*
*заветрымся*
*і засенімся.*
*Застынем над ракой*
*як статуі, як помнік,—*
*пазбаўлены сімволік і*
*падтэкстаў.*

Невычэрпнай крыніцай натхнення з'яўляецца для А. Барскага родная прырода. Белавежа, па сутнасці, персаніфікуецца, ператвараецца ў жывую істоту — шматаблічную, мудрую і разумную. Вобраз Белавежы, асэнсаванне яе значэння для героя таксама перажылі пэўную эвалюцыю ў паэзіі Алеся Барскага. Калі напачатку гэта былі гімнічныя і захопленашчодрыя песні красе і сіле акаляючага свету прыроды, то пазней пейзажная лірыка набліжаецца па сваёй зместавай глыбіні, медытатыўнасці да філасофскай. У прыродных заканамернасцях, натуральным жыцці бачыцца сімвал і ратунак для чалавека.

*Штоночы сняцца тыя*
*небасхілы,*
*Якія вабілі мяне калісьці.*
*А я ж даўно ужо іх*
*перакрочыў*
*І аглядаў дакладна з таго*
*боку.*
*Вербы ляжаць — зялёныя*
*каровы*
*У белым сене туманоў*
*надрэчных.*
*Язычнік я — прыходжу да*
*жывёлы,*
*Прашу, каб падзялілася*
*спакоем.*
*Трывогу — тым,*
*Хто буру сее недзе,*
*А цішыню —*
*Маім валам і вершам.*
*Жменю зямлі бяру*
*З вільготнай глебы —*
*Буду ляпіць свой верш*
*і чалавека.*

У паэзіі А. Барскага арганічна суіснуюць традыцыйныя сілабатанічныя вершы, строгія класічныя формы трыялетаў і найноўшыя эксперыменты ў галіне рытму і рыфмы, філасофскія свабодныя вершы з шматзначнай умоўнай асацыятыўнасцю вобразаў.

Кніга **"Блізкасць далёкага"** (Беласток, 1983) — адна з вяршынь у творчасці А. Барскага. Гэта не звычайны зборнік вершаў, а цэльны твор, кніга-паэма, што складаецца са ста (!) самастойных, разнапланавых паэтычных тэкстаў, "лірычных звышматэрый". Кожны з іх мае свой нумар-назву і служыць цаглінкай у выбудоўванні паэтычнага храма. Думаецца, паэт спасцігнуў новую сутнасць адносін да свету і да сябе:

*Я толькі эпізод*
*Мізэрны, выпадковы*
*У гэтым краявідзе,*
*Гэтым наваколлі.*
*Усё закончана,*
*І ўсё тут не гатова,*
*Свет вечных парадоксаў,*
*Квадратура круга.*

Другі мінскі зборнік **"Лірычны пульс"** (1987) даказаў, што творчасць Алеся Барскага заняла трывалыя пазіцыі ў беларускай літаратуры, стала часткай нацыянальнай культурнай прасторы. Гэтая кніга — вынік духоўнага шляху, падагульненне набыткаў, творчых і жыццёвых. Пяць раздзелаў зборніка — "З зямлёю роднаю ў вечным ладзе", "Штоночы сняцца тыя небасхілы", "Свет, у якім я жыву", "У глыбіні тваіх вачэй", "Мая паэзія — мой абавязак" — акрэсліваюць абсягі паэтычнага свету "белавежскага" аўтара, накірункі асваення рэчаіснасці. Характэрна, што ў кожным раздзеле так ці інакш прадстаўлены вершы самых першых перыядаў творчасці. Думаецца, гэта паказчык таго моцнага патэнцыялу, паэтычнага таленту, што выяўляўся ўжо ў ранніх тэкстах А. Барскага. Абраныя ў маладосці арыенціры ў светабачанні "белавежскага" лірыка засталіся нязменнымі. Асэнсаванне свайго месца ў Сусвеце, ацэнка ўласнай дзейнасці, пройдзенага шляху з яго набыткамі і стратамі — вось асноўныя матывы зборніка. У вершах сталага творцы, які ў маладосці стараўся перайначыць і перавыхаваць амаль увесь свет, зараз гучаць філасофскі спакой, хрысціянскае прымірэнне:

*І чым я большы,*
*Тым айчыны меншай трэба,*
*Мне хопіць агарод,*
*Бацькоўскі панадворак*
*І той кусок*
*Прыязнага калісьці неба,*
*Які прыкрыў далоняй сіняй*
*Маё учора.*

Яшчэ адным адкрыццём для беларускага чытача стала арыгінальная кніга **"З пабачанага і перажытага: Абразкі, артыкулы, дарожныя нататкі"** (Мінск, 1992), дзе сабраны багаты наробак у публіцыстыцы, празаічныя творы беластоцкага пісьменніка.

У творчасці Алеся Барскага атрымалі сваё развіццё традыцыі нацыянальнага прыгожага пісьменства. Беларуская лірыка праз яго паэзію выйшла на новыя абсягі мастацкага спасціжэння рэчаіснасці, самабытнай інтэлектуальнай засяроджанасці, натуральнага прыцягнення да "каранёў" Бацькаўшчыны.

**Анатоль РАМАНЧУК,**
**навуковец.**

г. Гродна.

**ДАЙДЖЭСТ**

# ЗНІКАЮЦЬ АПОШНІЯ СВЕДКІ ЖЫЦЦЯ ЗОРГЕ



***4 ліпеня 2000 года ў Токіо ва ўзросце 89 гадоў памерла Ханака Ісіі, адна з апошніх сведкаў жыцця Рыхарда Зорге. Ісіі не ўваходзіла ў групу Зорге, яна не здабывала разведвальную інфармацыю, не мела ніякіх афіцыйных абавязкаў або даручэнняў. І тым не менш яе роля ў забеспячэнні поспеху разведвальнай місіі Зорге ў Японіі цяжка пераацаніць. Ханака Ісіі была своеасаблівым анёлам-захавальнікам Зорге ў Японіі, бескарыслівым і верным сябрам легендарнага разведчыка, якая дапамагала Зорге прыстасавацца да нязвыклых для любога еўрапейца ўмоў Японіі і пераносіць цяжкасці нелегальнай працы.***

Зорге пазнаёміўся з Ісіі ў невялікім нямецкім рэстаранчыку "Рэйнгольд" на Гіндзе, дзе яна абслугоўвала наведвальнікаў. Дарэчы, гэты рэстаранчык працуе і сёння, змянілася толькі яго назва — "Кецель". Гэта было адно з тых мімалётных знаёмстваў, якія часта здараюцца ў замежных гасцей у Токіо. Але трэба было быць такой незвычайнай асобаю, як Зорге, каб абудзіць у сэрцы простай японскай дзяўчыны глыбокае і моцнае пачуццё. Яно пераадолела варожасць, што выхоўвалася ў японцаў да іншаземцаў у даваенны час, страх перад тайнай паліцыяй "тока", якая сачыла за кожным іншаземцам. Адначасова трэба было і самой быць асобаю, каб рашыцца не на карысць асабістай бяспекі падтрымліваць любімага чалавека ў яго нялёгкім і небяспечным жыцці. У Ханака Ісіі хапіла мужнасці адмовіць паліцыі ў яе настойлівых патрабаваннях перадаваць інфармацыю пра Зорге. Са свайго боку, ужо пад арыштам, Зорге зрабіў усё, каб паліцыя не чапала Ісіі.

У 1967 годзе такійскае выдавецтва "Кэйсо Сёбо" апублікавала ўспаміны Ісіі пра савецкага разведчыка — "Зорге як чалавек". Прывядзём з іх адзін толькі эпізод, які добра ілюструе характар адносін, што склаліся паміж Рыхардам і Ханака. Ён адносіўся да 22 ліпеня 1941 года, калі гітлераўская Германія напала на Савецкі Саюз.

Сёння нам вядома, што Зорге, пачынаючы са снежня 1940 года, літаральна "бамбардзіраваў" кіраўніцтва Разведупраўлення савецкага Генштаба данясеннямі, што рыхтуецца нападзенне на СССР. Ён не толькі ўказваў магчымыя тэрміны нападзення, але і дакладна называў накірунак галоўнага ўдару гітлераўцаў ("найбольш моцны ўдар будзе нанесены левым флангам нямецкай арміі"). Гэтая інфармацыя супярэчыла перакананасці савецкага Генштаба і асабіста Сталіна, што галоўны ўдар гітлераўцаў у выпадку вайны будзе нанесены правым флангам у накірунку Украіны. У гэтай жа шыфраграме Зорге паведаміў пра тое, што германскі Генштаб лічыў "вялікай тактычнай памылкаю савецкіх ваенных". Ён папярэджваў: "З пункту гледжання нямецкага боку, самая вялікая памылка ў тым, што савецкая лінія абароны набліжана да нямецкай лініі і не мае ў цэлым вялікай глыбіні. Гэта памылка дапаможа разбіць Чырвоную Армію ў першым жа баі".

Трагедыя Зорге заключалася ў тым, што нават гэта найважнейшая стратэгічная інфармацыя ў Разведупраўленні выклікала сумненні.

Натуральна, што калі нападзенне гітлераўскай Германіі на СССР усё ж адбылося, Зорге апынуўся на мяжы нервовага зрыву. Ханака Ісіі згадвала: "Тады я ўпершыню ўбачыла, як Зорге плакаў. Я пасадзіла яго да сябе на калені і пачала гладзіць яго спіну. Заглянуўшы ў яго твар, я заўважыла, што ён плакаў без слёз. Мне было цяжка сабе ўявіць Зорге, які плача. І калі я здзіўлена спытала яго, у чым справа, ён адказаў: "У мяне няма сяброў і блізкіх. Цяжка". Я тады падумала, якім адзінокім робіць чалавека яго праца".

Ханака Ісіі ўнесла неацэнны ўклад у захаванне памяці пра Рыхарда Зорге ў Японіі. У 1949 годзе яна, пераадолеўшы шматлікія бюракратычныя рагаткі, знайшла астанкі савецкага разведчыка ў турэмнай брацкай магіле на могілках Дзосігая. Яна крэміравала іх і перазахавала на могілках Тама ў такійскім прыгарадзе. Ісіі паклала памятны камень на магілу з надпісам "Рыхард Зорге" на японскай і нямецкай мовах. Пасля таго, як у 1964 годзе заслугі Зорге былі прызнаны ў СССР, савецкі ўрад устанавіў на яго магіле яшчэ адзін памятны камень з надпісам на рускай мове: "Герой Советского Союза Р. Зорге". Цяпер, відавочна, побач з прахам Зорге знойдзе свой вечны спачын і яго верная японская сяброўка, фактычна грамадзянская жонка Ханака Ісіі.

Роля Ханака Ісіі ў жыцці Рыхарда Зорге ў Японіі і яе заслугі ў захаванні памяці легендарнага савецкага разведчыка былі афіцыйна прызнаны. Яна атрымлівала пенсію ад ваеннага ведамства ў Расіі.

**Ю. Г.**
("Японія сёння").

**У публікацыі нашага чытача і аўтара Юры Весялкоўскага "Дыктатары XX стагоддзя" ("ГР" №№ 18—19 б. г.) прыводзіліся факты з жыцця Рыхарда Зорге. Думаецца, чытачоў зацікавяць новыя звесткі пра гэтага чалавека.**

## БЕНЕФІС Айшы АЛЕКСАНДРОВІЧ

На пачатку кастрычніка ў маляўнічым кутку Мінска — Траецкім прадмесці, у Музеі тэатральнага мастацтва, адкрылася персанальная, прымеркаваная да 25-годдзя творчай дзейнасці, выстава выдатнай мастачкі па сцэнічным касцюме Айшы Александровіч. На вернісаж сабралася шмат гасцей: сяброў, калег, вучняў Айшы Браніславаўны.

Творчы багаж Айшы Александровіч досыць важкі. Пачынала яна ў оперным тэатры, працавала з камерным аркестрам народных інструментаў Беларускага радыё і тэлебачання, з вядомымі эстраднымі калектывамі "Сябры" і "Песняры", з асобнымі салістамі. Зараз ужо на працягу некалькіх год мастачка плённа супрацоўнічае з Дзяржаўным ансамблем танца Беларусі. На канцэртах гэтага калектыву, якія праходзяць з аншлагам, захапленне гледачоў выклікаюць цудоўныя, зробленыя з высокім густам, пачуццём годнасці і тонкім адчуваннем усіх нюансаў народных строяў касцюмы артыстаў.

Айша Браніславаўна шмат працуе з моладдзю: яна выкладае малюнак студэнтам-архітэктарам Політэхнічнай акадэміі. А яшчэ мастачка нямала ўвагі надае працы ў татарскай дыяспары, да якой належыць. Між іншым, татары, што аселі тут аж 600 гадоў назад, даўно ўжо прыжыліся на беларускіх абшарах, каранямі ўраслі ў зямлю, на якой ужо стагоддзямі гадуюць дзяцей і ўнукаў. Дарэчы, маленькі ўнук Айшы Браніславаўны таксама павіншаваў на вернісажы бабулю: выканаў на раялі невялікі музычны твор. Расчуліліся ўсе: і віноўніца ўрачыстасці, і іншыя прысутныя. А ўвогуле, як і павінна быць у падобных выпадках, у той дзень у зале гучала шмат шчырых, цёплых слоў, разлівалася мора кветак, і, гледзячы на ўсё гэта, шчасліва свbadзіліся вочы Айшы Александровіч.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**





НА ЗДЫМКАХ: Айша АЛЕКСАНДРОВІЧ у час вернісажу; мастачку вітае пасол Турцыі ў Беларусі спадарыня Фацьма Шуле САЙСАЛ.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**





# ПАЛЯВАННЕ НА ГЛУШЦА

Не так даўно ад свайго сябра Аляксандра Кандыбы я пачуў, што недалёка ад Мінска, у Жодзіне, ёсць цікавы чалавек, вольны мастак, які вырабляе чучалы птушак і звяроў. Яго дом — сапраўдны музей, і акрамя жонкі, сына і дачкі, якія дапамагаюць яму, з ім жывуць трохметровы пітон, фазаны, кот і рыбкі ў вялікім акварыуме. Неўзабаве лёс звёў мяне з Генадзем Пузанкевічам, і, дзякуючы яму, я выканаў адно сваё абяцанне. Але па парадку.

Яшчэ паўгода таму я ведаў пра глушца толькі тое, што жыве ён у лесе і калі вясной у шлюбны перыяд такуе, то нічога не чуе, хоць голымі рукамі хапай, што на Беларусі гэта птушка рэдкая, а ў суседняй Польшчы яна гадоў 20—25 як знікла. Таму, калі я даведаўся, што мой сябар Павел Свянткевіч з Беластока марыць яе сфатаграфаваць, узяўся дапамагчы яму. Тым больш, я добра ведаў фатографа са Смаленска Мікалая Кандрацьева, у якога бачыў два ці тры здымкі глушца. Але Смаленск у Расіі, і да яго ад Мінска больш трохсот кіламетраў, таму я вырашыў, што лепш спачатку пашукаць глушца бліжэй.

Увосень я пачаў распытваць мінскіх фатографаў, але ніхто з іх глушца не здымаў. Потым абзваніў знаёмых паляўнічых і ў адказ пачуў, што справа гэта нялёгкая і наўрад ці хто з іх мне дапаможа. За размовамі скончылася восень і пачалася зіма. Тады зноў я звярнуўся да Кандрацьева, патэлефанаваў яму і паехаў у Смаленск.

Мікалай пераканаў мяне ў складанасці гэтай справы. З яго апавяданняў выходзіла, што, хаця ён і фатаграфаваў глушца, але гэта заўсёды як пашанцуе: ніколі нельга быць упэўненым у поспеху. Такуе глушэц у пачатку красавіка на балотах, і не толькі знайсці, але і падысці да яго вельмі цяжка. Апошні раз паблізу тока Мікалай бачыў воўчы памёт, а калі вяртаўся, знайшоў у сябе на шыі кляшча, якога выразаў нажом.

Ад Смаленска спачатку трэба ехаць цягніком на паўночны ўсход, потым некалькі гадзін ісці пешшу. Неабходна мець з сабою рыбацкія боты, каб прайсці па балотах. А калі будзе мароз, не дай Божа паслізнуцца, бо пад вадой можа быць лёд. Бывае, што стаяць каля тока давodзіцца некалькі гадзін у вадзе. Начаваць будзем у лесе. А каб не змерзнуць, зробім наддзю (спецыяльнае паляўнічае вогнішча з экранам)... "Ці вернешся жывым з такіх прыгод?" — разважаў я, ідучы дамоў.

Мы дамовіліся, што я буду чакаць званка ад Кандрацьева, каб адразу вызваць Паўла з Польшчы. Як атрымаецца, пажывем пабачым.

**Альберт ЦЭХАНОВІЧ.**
**Фота аўтара.**

НА ЗДЫМКАХ: Генадзь ПУЗАНКЕВІЧ і дом, збудаваны яго рукамі.



## КРЫЖАВАНКА АД Святланы ФАЦЕЕВАЙ

*ПЕРАКЛАДЗІЦЕ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:*

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 5. Аист. 6. Аромат. 9. Кофе. 11. Ягнёнок. 12. Пруд. 14. Слух, молва. 15. Дерево. 16. Учитель. 19. Качели. 20. Корзинка. 21. Родник, источник. 24. Гвоздь. 26. Утюг. 27. Взрыв. 28. Камыш.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Ухо. 2. Место. 3. Кровать. 4. Чашка весов. 7. Арбуз. 8. Жатва. 10. Хозяйка. 12. Март. 13. Единица. 17. Бровь. 18. Ковёр. 22. Ум, разум. 23. Сахар. 25. Крест. 26. Забор.



## СМАЧНА ЕСЦІ

### СЛАЁНЫ ПІРОГ

Цеста: 1 шклянка смятаны, 1 пачка маргарыну, 3 шклянкі мукі, 1/2 чайнай лыжкі соды, крышку солі, 1 сталовая лыжка цукру.

Маргарын нацерці на тарцы, дабавіць усе кампаненты і добра перамяшаць. Раздзяліць на 4 роўныя часткі і пакласці ў халадзільнік на 1 гадзіну. Пасля кожную частку качалкаю раскачаць, каржы выпякаць у духоўцы.

*Начынка.*

*1 слой. Нацерці на крупнай тарцы 200 грамаў сыру і змазаць маянэзам.*

*2 слой. Відэльцам расцерці любую адвараную рыбу, можна кансерву (пажадана ласосевую) і зноў змазаць маянэзам.*

*3 слой. На тарцы нацерці 4—5 вараных яек, затым слой пасіраванай цыбулі і зноў маянэз.*

*4 слой. Змазаць маянэзам і пасыпаць крошкай.*

**Прыемнага апетыту!**

## ПЕРШЫЯ ЎРАЖАННІ

# NRM — НЕЗАЛЕЖНАЯ РЭСПУБЛІКА МРОЯ

**Тое, пра што я вам зараз хачу паведаміць, можна аднесці ў разрад "такога яшчэ не было". Сапраўды, канцэрт беларускага гурта N.R.M. , што адбыўся 12 кастрычніка ў канцэртнай зале "Мінск", пакінуў столькі ўражанняў, што хаваць іх у сабе не магу. Слухайце.**

...На гадзінніку 19.10, але на сцэне яшчэ нікога няма, акрамя вялізнай чорнай чарапахі, што глядзіць на нас з блакітнага сцяга. Народ перыядычна дружна крычыць: "N. R. M., N. R. M..." Але раптам з дынаміка чуецца гук званка, нібыта ў цырку, і ўсе мы апынаемся ў аэрапорце краіны N. R. M. Дыктар-дыспетчар кажа: "Ідзе пасадка на рэйс,.. што адбывае на возера Трох чарапах. Падарожжа пачнецца праз 15 хвілін". Зала пачынае абурацца, а з дынаміка працягваюцца аб'явы: "У пакоі №16 на першым паверсе ідзе продаж адзежы second hand, ветэранам "Маршу Свабоды" — скідкі". Зала пачынае рагатаць і, ужо супакоіўшыся, уважліва слухае далей: "Хто бачыў татарына, калі ласка, не прапануйце яму гарэлкі..."; "Маладыя людзі, калі ласка, прайдзіце ў медпункт аэрапорта для агляду на наяўнасць алкаголю ў крыві..." Усіх развесяліла гэтая прапанова, і ў зале раздаецца дружнае: "Жыве Беларусь!" "Дыспетчар" імгненна рэагуе на гэта, і з дынаміка чуецца: "Калі ласка, сядзьце на месцы, у зале працуе дружына аэрапорта". У гэты момант міліцыянеры пачынаюць рухацца і ўсміхацца.

Дынамік замоўк, і мы, успомніўшы, дзеля чаго сюды прыйшлі, зноў крычым: "N. R. M., N. R. M!". Тут гурт выходзіць на сцэну, і зала ўзрываецца. Лідэр гурта Лявон Вольскі робіць далонню знак, і ўсе замаўкаюць, а Лявон гаворыць: "На жаль, канцэрта не будзе. Пакуль мы рыхтаваліся да яго, нейкія злачынцы прабраліся за кулісы і пакралі ўсю нашу тэхніку разам з узмацняльнікамі..." Спадзяюся, вы ўяўляеце сабе, што пачалося ў зале. "Але не турбуйцеся, — працягвае Вольскі, — мы пойдзем шукаць злачынцаў". І ўсе музыканты пакінулі сцэну. У зале падымаецца шум. Чуваць разважанні: гэта быў жарт ці што? З дынаміка працягваюць гучаць аб'явы, але іх ужо амаль ніхто не слухае: усе чакаюць сваіх любімцаў.

На гадзінніку 19 гадзін 25 хвілін. Гурт зноў выходзіць на сцэну, і Лявон паведамляе: "Злачынцы выяўлены, мы пачынаем!" Дынамік запрашае ў палёт на возера Трох чарапах, і мы "ўзлятаем".

Першую песню "Паветраны шар" спявала ўся зала:

*О'кей, тут усё о'кей,*
*Толькі дыхаць мне з кожным днём цяжэй.*
*Паветра зусім няма,*
*Колькі ні ўдыхай — усё дарма.*
*Глядзець на брудны горад*
*І крэмзаць мемуары*
*Не варт ачэй і не варт далей.*
*І я гляджу на зоры,*
*І я гляджу на хмары.*
*І слухаю ўласнага сэрца стук.*

*Падымі мяне*
*Па-над зямлёю.*
*Падымі мяне*
*У светлы абшар.*
*Падымі мяне*
*Над мітуснёю.*
*Падымі мяне,*
*Паветраны шар.*

Менавіта тады я адчуў, што, нягледзячы ні на што, **мы** яшчэ **ёсць**. Не засталося ніводнага абыякавага чалавека да "Шара...", а калі глядзець глыбей, то і да Беларусі. Цікава, што за дзве гадзіны, што цягнуўся канцэрт, не было песні, якую б Лявон спяваў адзін: амаль уся зала спявала разам з музыкантамі, стоячы. Першая частка "палёту" прайшла на адным дыханні.

Пасля перапынку "дыспетчар" паведаміў, што палёт працягваецца, мы знаходзімся на вышыні 10 000 метраў і набліжаемся да месца прызначэння. Астатнюю частку "палёту" зала і гурт таксама спявалі разам. Потым "прызямліліся" і "пераселі на аўтобус", каб "пад'ехаць" на ім да самога возера Трох чарапах. Тут пачалі гучаць песні менавіта з новага альбома "Тры чарапахі", але, як аказалася, зала іх даволі добра ведае. Гэта не перашкодзіла нам успрыняць кожную песню так, нібы мы чуем яе першы раз.

...Апошнім быў сінгл "Тры чарапахі", дзе куплеты пачыналіся вельмі весела:

*Калі раптам адчуеш камунальныя пахі,*
*І жыццё цябе возьме ў пятлю,*
*Зразумееш тады, што тры чарапахі*
*Па-ранейшаму цягнуць зямлю...*

* * *

*Каб назваць Беларусь маю мілую мамай,*
*Трэба ў розных краях пабываць...*

У прыпеве там ёсць словы: "*Гэй, ла-ла-ла-лай, ты не чакай, сюрпрызаў не будзе...*" Спачатку ўсе спявалі гэтыя радкі на поўную моц, але раптам Лявону захацелася пагуляць з залай: "А цяпер зусім ціха", — загадаў ён, і ўся наэлектрызаваная публіка пачала амаль шэптам спяваць. Гэта трэба было чуць! Песня скончылася, але самыя ўпартыя яшчэ раз праспявалі прыпеў без музыкі.

Лявон Вольскі прадставіў публіцы музыкантаў і ўсіх, хто дапамог ім зрабіць гэтае шоу. Музыканты пайшлі са сцэны, але зала вырашыла так проста іх не адпускаць і пачала крычаць: "Ка-хан-не! Ка-хан-не!" Так называецца адна з песень. Музыканты заўсміхаліся, вярнуліся і праспявалі яшчэ адну песню. А потым зала правяла іх працяглымі апладысментамі.

**Ну вось і ўсё. Я толькі паспрабаваў пераказаць вам, што чуў і бачыў, бо перадаць усе ўражанні проста немагчыма: гэта трэба бачыць.**

**Слухайце N. R. M., чытайце "Голас Радзімы". Бывайце.**

**Глеб ЛАБАДЗЕНКА.**

«Голас Радзімы»

**Галоўны рэдактар**
**Наталля САЛУК**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".**

**РЭДАКЦЫЯ:**
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнік **Леанід МАРАКОЎ.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Яўген КАЗЮЛЯ, Алесь МЯСНІКОЎ, Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

**НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.**



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 652 экз.
Зак. 2744.
Падпісана да друку 30.10.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).